ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

2 мая 1997 г. № 18/3894 Кошт 3 000 руб.





# Ёсць "Оскар"!



**Вельмі нагадвае знанага амерыканскага "Оскара" бліскучая адмысловая статуэтка, якая трапіла ў Мінск не са Злучаных Штатаў і не праз нашы кінематаграфічныя дасягненні. Гэтую, і не толькі гэтую, высокую ўзнагароду заваявалі ўдзельнікі хору Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам свайго маэстра, народнага артыста СССР прафесара Віктара Роўды. Вось што распавёў Віктар Уладзіміравіч нашаму карэспандэнту:**

— У Міністэрства культуры Беларусі паступіла паведамленне пра тое, што ў германскім горадзе Дармштаце адбудзецца Міжнародны конкурс харавых калектываў. Нашаму хору Акадэміі музыкі прапанавалі ўдзельнічаць. Умовамі конкурсу вызначалася некалькі катэгорый; мы далі згоду ўдзельнічаць і ў катэгорыі змяшаных хораў, і ў катэгорыі мужчынскіх хораў. Потым па просьбе арганізатараў адправілі ў Германію сваю аўдыёкасету, і неўзабаве атрымалі адтуль прапанову ўдзельнічаць яшчэ і ў катэгорыі духоўнай харавой музыкі, але ўскладнейшы праграму. Нас гэта

*(Працяг на стар. 11)*

## ШКОЛА ДЗЁН

***Яшчэ год таму пра існаванне дзяржавы Беларусь ведалі хіба што эрудыты. Сёння ў Еўропе, пэўна, цяжка знайсці таго, хто не чуў пра нашую краіну. Беларусаў з белагвардзейцамі ўжо не блытаюць. Іншая справа, якую славу набыла Беларусь у свеце... Растлумачыць лагічна ці зразумець, чаму народ на чале са сваімі лідэрамі імкнецца пазбавіцца незалежнасці — немагчыма. Гэта — загадка “таямнічай славянскай душы”. І хоць сёння кіраўніцтва Беларусі ва ўвесь голас сцвярджае, што ні пра якое адмаўленне ад незалежнасці размова не ідзе, што аб’ядноўваюцца дзве суверэнныя дзяржавы, кожная з якіх будзе мець адзін голас, мы ведаем, што канчатковай мэтай Саюза — і гэта ўсяляк падкрэсліваецца — з’яўляецца ўтварэнне адзінай дзяржавы. На гэтай, і толькі на гэтай абавязковай умове пойдзе на Саюз Расія... Так, сёння ў свеце ведаюць, што ёсць у Еўропе такая дзяржава Беларусь. Ёсць, а не была. І гэта пакідае беларусам шанц зрабіць так, каб была яна вечна, пакуль будзе існаваць гэты свет. Пэўна ўжо, лёс у нас такі: пакутліва доўга паўставаць з попелу, імкліва згараць, каб потым паўстаць зноў і зноў...***

### ПАДЗЕЯ ТЫДНЯ

Мяркуючы па прэсе і тэлебачанні, “Чарнобыльскі шлях-97” чакалі і левыя, і правыя, і цэнтрысты, і “нейтральныя” ўлады. Адны — з надзеяй, другія — з жахам. Улады дазволілі правядзенне шэсця і мітынгу, але папярэдзілі, што “беспарадкі” будуць расцэньвацца як спроба дзяржаўнага перавароту. Апазіцыя паабяцала захоўваць парадак, строга прытрымлівацца маршруту, але ці мог быць застрахаваны хто ад усемагчымых правакацый... І вось “Чарнобыльскі шлях-97” прайшоў. І шэсце, і мітынг прайшлі цывілізавана, спакойна, мірна. Афіцыйныя СМІ, у некалькі разоў змяншаючы колькасць удзельнікаў акцыі, увесь час падкрэсліваюць, што адбыліся яны без эксцэсаў дзякуючы вытрымцы ўлад і міліцыі. Хоць міліцыі на гэты раз, у адрозненне ад папярдніх шэсцяў, амаль не было відаць. І пры жаданні “хуліганы” з БНФ маглі б разгуляцца... Але гэтага не здарылася. Бо не выхоплівалі з шэрагаў міліцыянеры і “людзі ў цывільным” дэманстрантаў з “недзяржаўнымі” сцягамі і не цягнулі да машын з закратаванымі вокнамі, бо не перагароджваўся шлях машынамі і амонаўцамі са шчытамі і дубінкамі... Людзі выказалі сваю пазіцыю і мірна разышліся.

### ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Пасля аварыі на ЧАЭС “23 працэнты тэрыторыі рэспублікі аказаліся забруджанымі радыенуклідамі. Тут пражывалі 2 млн. 230 тыс. чалавек. На пацярпелай тэрыторыі прыйшлося закрыць больш як 600 школ і дзіцячых садоў, 95 бальніц, каля 300 аб’ектаў народнай гаспадаркі. З абароту выключана 260 тыс. гектараў сельгасугоддзяў і 190 тыс. гектараў лясоў...” Лічбы і факты, гэтыя і іншыя, прагучалі ў выступленні па БТ прэм’ер-міністра Беларусі С. Лінга. Звесткі не новыя і не раз называныя вучонымі. Але, практычна ўпершыню прагучаўшы з вуснаў аднаго з кіраўнікоў дзяржавы, яны займелі зусім іншую вагу. Чвэрць насельніцтва і чвэрць тэрыторыі нашай дзяржавы пацярпелі ад аварыі ў 1986 годзе. За адзінаццаць жа гадоў “прыхарошвання” сапраўдных наступстваў трагедыі практычна на Беларусі не засталося куточка зямлі ці чалавека, які б не быў зачэплены нябачнай і неадчувальнай бядой...

### ПАЕЗДКА ТЫДНЯ

Паўднёвая Карэя, В’етнам і, нарэшце, Кітай — такім быў маршрут паездкі прэзідэнта Беларусі А. Лукашэнкі па краінах Паўднёва-Усходняй Азіі. Візіт меў эканамічна-палітычны характар і прайшоў даволі паспяхова. Праведзены перамовы з кіраўнікамі дзяржаў, падпісаны шэраг дакументаў аб пашырэнні супрацоўніцтва між нашымі краінамі. Паўднёва-азіяцкі ўхіл знешняй палітыкі беларускай дзяржавы сёння цалкам зразумелы: нашы кіраўнікі вымушаны ехаць не столькі туды, куды выгадна, колькі туды, дзе прымаюць... І таму незразумела, чаму некаторыя палітычныя аглядальнікі супрацьпастаўляюць эканамічнае супрацоўніцтва з Азіяй стасункам з Еўропай. Такая аднабаковасць небяспечная для любой дзяржавы, тым больш — еўрапейскай. Ці варта казаць, што Беларусь павінна быць максімальна адкрытай свету і ўвесь свет — Беларусі.

### ФАКТ ТЫДНЯ

Дэлегацыя Нацыянальнага сходу Беларусі на чале з намеснікам старшыні Савета рэспублікі Т. Дудко прымала ўдзел у рабоце 97-ай канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза ў Сеуле. У сувязі з вядомымі мінулагоднімі падзеямі беларуская дэлегацыя на канферэнцыі мела статус не паўнамоцнага члена МПС, а спецыяльна запрошанага, і легітымнасць яе была падвергнута сумненню. “У Сеуле мы атрымалі ўрок дэмакратыі, — сказала на прэс-канферэнцыі Т. Дудко, — але гэта ўрок заходняй дэмакратыі, якую можна расцэньваць як адсутнасць усякай дэмакратыі”... Выснова нечаканая, што ні кажы...

### НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Вышэйшая рада ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі выказала “глыбокую занепакоенасць” палітычнай сітуацыяй, што склалася ў нашай краіне: ліберал-дэмакраты лічаць цяперашні склад Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі нелегітымным, бо з 260 выбарчых акруг толькі грамадзяне 110 (42 працэнтаў) акруг маюць сваіх дэпутатаў у Палаце прадстаўнікоў... ЛДПБ настойвае на тэрміновым правядзенні выбараў у новы парламент, які адзіны будзе мець законнае права ратыфікаваць саюзны дагавор і Статут Саюза Беларусі і Расіі... Нагадаем, што ЛДПР была практычна адзінай партыяй (камуністы — “раскалоліся”), якая падтрымала А. Лукашэнку ў лістападзе мінулага года, падчас рэферэндуму і “рэфармавання” Вярхоўнага Савета 13-га склікання. “Народная воля” робіць з гэтых фактаў такую выснову: “Калі ЛДПБ лічыць Палату прадстаўнікоў незаконнай, значыць яе чакае хуткі канец”.

### “ІНТЭГРАЦЫЯ” ТЫДНЯ

27 красавіка на Беларусі з’явілася філія яшчэ адной палітычнай партыі Расіі — “Яблоко”. На ўстаноўчы з’езд прыехаў Рыгор Яўлінскі, эканамічную праграму якога “500 дзён” рэцэнзаваў некалі сам А. Лукашэнка... “Яблоко” адмоўна ставіцца да Саюза Беларусі і Расіі ў тым выглядзе, у якім прапануюць яго сёння кіраўнікі дзвюх краін. Але і прапановы “Яблока” найперш улічваюць выгоды Расіі, а не незалежнай, суверэннай дзяржавы Беларусь, якая такой і хацела б застацца. Камуністы, жырыноўцы, “яблыкі”... Хто наступны “інтэгруецца” ў Беларусь?

З НАГОДЫ

# “Чарнобыльскі шлях-97”



У Беларусі два гербы, два сцягі, два парламенты, дзве канстытуцыі — а мяркуючы па тым, як адзначалася ў мінулую суботу чарговая гадавіна чарнобыльскай катастрофы, дык і Чарнобылі ў нас таксама два. Адзін — у начальства, другі — у народа. У суботу ў сталіцы адбылося два мітынгі. Адзін непадалёк ад плошчы Бангалор (у гонар індыйскага горада-пабраціма Мінска), дзе пастаўлены мемарыяльны камень і будуецца праваслаўны храм. Другі — ля Палаца спорту. Першы мітынг меў афіцыйны характар, і на ім сабралася чалавек семсот (прычым трэцяя частка — людзі ў форме: міліцыянеры, вайскоўцы, курсанты). Другі ладзіла апазіцыя. Пад бел-чырвона-белымі сцягамі дэманстрантаў было тысяч дваццаць. Ля бангалорскага каменя сабраліся тыя, каго прымушаў да гэтага службовы абавязак, і тыя, хто мае патрэбу прадэманстраваць сваю лаяльнасць сённяшнім уладам. Праўда, я не выключаю, што на афіцыйным мітынгу былі і тыя, хто сапраўды прыйшоў пакланіцца святыні — каменю і храму. Тыя, для каго гэтыя камень і храм — сімвал пакут і гераізму... Але абсалютна недарэчным выглядаў хоць і на афіцыйным, але ўсё ж такі чарнобыльскім мітынгу строй камуністаў, якія прыйшлі з былым дзяржаўным сцягам былога СССР, з партрэтамі А. Лукашэнкі і лозунгамі “Нет продвижению НАТО на восток!” і “Быть союзу России и Белоруссии!”. Складвалася ўражанне, што арганізатары мітынгу каля каменя нешта не ўлічылі, нешта недапрацавалі. Не было скаардынаванасці. Скажам, урадавыя чыноўнікі дзякавалі Маскве за дапамогу ў справе пераадолення наступстваў Чарнобыля; запэўнівалі, што прэзідэнт зробіць усё магчымае, каб на забруджаных тэрыторыях стварыць нармальныя ўмовы для жыцця. Нейкі выступовец нават сказаў, што “бяда адна не ходзіць, услед за Чарнобылем распалася вялікая краіна”, не разумеючы, што такое супастаўленне — абраза ахвярам Чарнобыля. Можа камусьці і недаспадобы, што колішнія правінцыі імперыі сталі суверэннымі краінамі. Але параўноўваць гэтую шараговую падзею сусветнай гісторыі з ядзернай катастрофай, якая можа паставіць крыж на існаванні цэлага народа, мякка кажучы, некарэктна.

Намеснік старшыні гарвыканкама тав. Чыкін гаварыў пра “інтэграцыю”, якая нібыта вырашыць усе нашы праблемы, забываючы, што Чарнобыль здарыўся якраз у той дзяржаве, якую сябры Т. Чыкіна па партыі збіраюцца аднавіць. У дзяржаве, што аказалася абсалютна няздольнай абараніць сваіх грамадзян, якія па віне яе, дзяржавы, трапілі ў бяду.

Зусім пра іншыя рэчы гаварылі тыя, каго непасрэдна закрануў Чарнобыль. Удава ліквідатара нагадвала пра даўгі, якія дзяржава вінна чарнобыльцам; пра тое, што многія з ахвяр катастрофы трымаюцца выключна за кошт гуманітарнай дапамогі з Захаду. Жанчына-перасяленка абуралася тым, што ў зоне ўсё яшчэ застаюцца тыя, якім няма дзе падзецца, якія не могуць з’ехаць. Дзяржава пра іх нібыта забылася. Трэба спыніць махінацыі чыноўнікаў з жыллём для чарнобыльцаў, з грашыма, выдаткаванымі на патрэбы пацярпелых.

Так што і на афіцыйным мітынгу гучалі “неафіцыйныя” словы, якія нармальна ўспрымаліся б і на мітынгу апазіцыі.

Апазіцыйная акцыя “Чарнобыльскі шлях-97” распачалася шэсцем ад Акадэміі навук па праспекце Скарыны. Міліцыянеры і амоўнацы гэтым разам стаялі ў дварах, прылеглых да праспекта, і шэсцю не перашкаджалі. Ахову парадку ў часе шэсця і мітынгу здзяйснялі маладыя хлопцы з бел-чырвона-белымі павязкамі на рукавах. Менавіта яны затрымалі некалькіх правакатараў, якія ў часе шэсця білі вокны ў інтэрнаце Беларускай політэхнічнай акадэміі і ў крамах на праспекце. У правакатараў у кішэнях знайшлі ўлёткі экстрэмісцкага зместу, аўтарства якіх улады прыпісвалі сваім палітычным апанентам.

А ўвогуле шэсце і мітынг прайшлі вельмі спакойна і арганізавана. Некалькімі днямі раней у маскоўскай тэлепраграме “Садружнасць. Супольніцтва. Саюз” расійскія палітыкі выказалі адносна мінскіх падзей слушную думку: АМОН на вуліцах гэта ўжо правакацыя. Супрацьстаянне дэманстрантаў і міліцыі на мінскіх вуліцах — кепская рэклама для “Саюза РФ і РБ”. Не выключана, што не толькі праз парады Масквы паводзіць сябе ў стасунках з апазіцыяй, пакуль ідзе абмеркаванне “статута саюза”, больш стрымана, цывілізавана, але і праз уласны розум да ўлады нарэшце дайшло, што проста біць апазіцыю ўжо не мае сэнсу, бо гэта не дае чаканага эфекту і толькі нараджае арганізаваны супраціў..

У акцыі “Чарнобыльскі шлях-97” бралі ўдзел, як і ў мінулы раз, госці з замежжа. Летась — УНА-УНСО. Сёлета — госці з Масквы, некалькі дзесяткаў актывістаў Антыфашысцкага маладзёжнага дзеяння (АМД) са старшынёй Пятром Казначэевым. Палітычны твар АМД не надта выразны. АМД адначасова супраць імперыялізму і сепаратызму. Яны супраць камуністаў і фашыстаў, супраць абсалютызацыі ролі дзяржавы ў грамадстве, эканоміцы, палітыцы і культуры, але што прапаноўваецца замест — зразумець цяжка. Як, напрыклад, расшыфроўваецца кідкі тэзіс “Свет без нацыяў”?.. Адзіны пункт у праграме АМД, які робіць гэту арганізацыю папулярнай сярод моладзі — патрабаванне стварыць у Расіі прафесійнае войска, спыніць “гвалтоўны прызыў”. Гэта вельмі актуальна ў святле нядаўняй чачэнскай вайны і перспектыў далейшай суверэнізацыі рэгіёнаў РФ з магчымымі элементамі грамадзянскай вайны.

На мітынгу ля Палаца спорту бралі слова вядомыя дзеячы апазіцыі. Чарнобыльская праблематыка наўпрост звязвалася з палітычнымі рэаліямі Беларусі, з адсутнасцю дэмакратыі ў краіне. Адзначалася, што толькі пад дзесятую гадавіну Чарнобыля рассакрэцілася інфармацыя аб тым, што па загадзе Масквы вайсковая авіяцыя асаджала на Гомельшчыну і Магілёўшчыну чарнобыльскія хмары. Па сутнасці, савецкія ваенна-паветраныя сілы здзейснілі ядзерную бамбардзіроўку беларускіх гарадоў і вёсак. З абурэннем гаварылі выступаючыя аб палітыцы ўлады, скіраванай на ліквідацыю грамадскіх чарнобыльскіх фондаў, найперш фонду “Дзецям Чарнобыля”.

Яскравае сведчанне няздольнасці ўлады вывесці краіну з крызісу — гэта рашэнні аб накіраванні ў зону маладых спецыялістаў, уключэнне ў гаспадарчы абарот забруджаных земляў.

Скончыўся мітынг прыняццем рэзалюцыі, за якую прагаласавалі ўсе прысутныя.

Гэтым разам абышлося без сутыкненняў міліцыі і дэманстрантаў. Наступныя акцыі апазіцыі — 1 і 14 мая.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

## Такі Чарнобыльскі вянок...

Строгія сцены храма. Камерная сяброўская абстаноўка. Шчымліва-знаёмы радок, які даў назву гэтай вечарыне: "Жураўлі на Палессе ляцяць..." І рубрыка — "Чарнобыльскі шлях", — якая вызначыла драматургічны лад і настрой праграмы.

Складалася праграма з твораў Ігара Лучанка. Хрэстаматыйныя лірыка-патрыятычныя песні, песні пра каханне і чалавечы лёс, песні пра Вялікую Айчынную і пра вайну афганскую... інструментальныя п'есы-споведзі...

Вянок песень на вершы паэтаў Беларусі, Украіны, Расіі, Балгарыі ды Югаславіі (сярод іх былі і прэм'еры) ажыў-загучаў дзякуючы заслужанаму артысту Беларусі Івану Краснадубскаму ды яго сябрам па мастацтве: удзельнікам Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл РБ, ансамблю "Славяне", іншым вядомым беларускім выканаўцам.

Наладзілі гэтую вечарыну ў Зале камернай музыкі (касцёл св. Роха) Саюз пісьменнікаў і Саюз кампазітараў, Міністэрства абароны, Саюз моладзі Беларусі ды Міжнародная асацыяцыя "Культура — міру".

## ...І па-польску таксама

Са студзеня 1990 года выходзіць у эфір на нашым абласным тэлебачанні польскамоўная праграма "Над Немнэм". Напачатку рыхтаваў і вёў яе цяперашні рэдактар газеты "Глос з-над Немна" Яўген Скрабоцкі. Аднак новы імпульс надала перадачы Ірэна Валюсь, якая і дагэтуль тройчы на месяц прапануе сваю праграму гледачам.

На Гродзенскім тэлебачанні, акрамя польскамоўнай тэлеперадачы, існуе і яшчэ адна — для астатніх нацыянальных супольнасцяў. Называецца яна "Жывём на зямлі адной". У гэтых праграмах праводзіцца трыадзіная стратэгічная мэта: а) адраджэнне мовы і культуры; б) усведамленне жыхарамі вобласці, незалежна ад нацыянальнасці, што яны грамадзяне Беларусі; в) сувязь з гістарычнай радзімай.

Польскамоўная тэлеперадача "Над Немнэм", дзякуючы намаганням І. Валюсь, набыла свайго гледача. Пра гэта сведчыць пошта. Пісьмы прыходзяць не толькі з Гродзеншчыны, але і з Міншчыны, Брэстчыны, Беласточчыны.

Праграма мае культурна-асветніцкую накіраванасць. Гасцямі бываюць адказныя асобы з Саюза палякаў Беларусі, вядомыя постаці з суседняй краіны. Насельніцтва інфармуецца пра польскае школьніцтва. Удзел у гутарках прымаюць студэнты з Гродзеншчыны, якія набываюць веды ў вышэйшых навучальных установах Польшчы, кіраўнікі мясцовых паланійных арганізацый з Ваўкавыска, Ліды, Воранава. Гучаць песні ў выкананні мастацкіх калектываў "Дзвонэчкі", "Гродзенскія салавейчыкі", "Гродзенэчкі", "Лехіці".

**В. ЗАДАЛЯ,**
намеснік старшыні Гродзенскага абласнога тэлерадыёаб'яднання

## Шануюць паэта ў Добрушы

Мікола Жданові́ч, яшчэ будучы студэнтам педінстытута імя Горкага, друкаваўся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. А потым на нейкі час знік з поля зроку аматараў літаратуры. Чым жа займаўся ўвесь гэты час паэт? Працаваў. У нараўлянскай раёншчы, уласным карэспандэнтам абласной газеты "Гомельская праўда", а пасля, па сёння, рэдактарам раённай газеты "Добрушскі край". І пісаў вершы. Частку з іх надрукаваў у калектыўным зборніку "Маладыя галасы" і ў альманаху "Магістраль".

А зусім нядаўна М. Жданові́ч выдаў зборнік вершаў "Прызнанне ціхае "люблю"... Пры падтрымцы добрых людзей у мясцовай друкарні.

У тым, што ў Добрушы шануюць паэта М. Жданові́ча, можна было пераканацца на прэзентацыі, што адбылася ў памяшканні музычнай школы. Аўтар чытаў вершы, адказваў на пытанні і прымаў віншаванні ад кіраўнікоў горада і раёна, ад калег па працы і літаратурным цэху, ад чытачоў.

**Васіль ТКАЧОЎ,**
сакратар Гомельскага абласнога аддзялення СП Беларусі

МІТРЭНГ!

# "Рэванш Расіі": прагноз не збываецца?..

Некалькі месяцаў таму на кніжным "развале" ў падземным пераходзе ля ЦУМа я патраліў на кніжку пад прэтэнцыёзнай назвай "Рэванш Расіі". Яна выдадзена сёлета нейкім маскоўскімТАА "Цитадель". Надрукавана ў Мінску ў друкарні выдавецтва "Беларускі Дом друку". Аўтар схаваўся пад псеўданімам не менш прэтэнцыёзным, чым назва кніжкі — Святаслаў Росіч. У анатацыі, змешчанай на вокладцы, гаворыцца, што "падзеі, апісаныя ў кнізе, адбываюцца ў перыяд з 1992 па 2006 год. Аднак гэта не зусім фантастыка, а хутчэй магчымы варыянт гістарычнага развіцця Расіі". А ў прадмове "Ад аўтара" удакладняецца: "...рэальна магчымы варыянт гістарычнага працэсу, які можа адбыцца ў бліжэйшыя 10—15 гадоў".

Дык які ж сцэнарый прапаноўвае аўтар Расіі, які "рэванш" і якім чынам яна мае здзейсніць? Коратка перакажу змест.

14 сакавіка 1997 года ў 17 гадзін 12 хвілін паміраe прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын. Пасля яго смерці на чале дзяржавы становіцца віцэ-прэм'ер, які курыраваў сілавыя структуры, генерал Пётр Лабанаў. Ужо праз тры дні ён выдае ўказы "Аб нацыяналізацыі камерцыйных банкаў", "Аб забароне дзейнасці якіх заўгодна сіяністцкіх, камуністычных, фашыстоўскіх і ўвогуле якіх заўгодна арганізацый, якія нясуць у сабе ідэалагічны змест якіх-небудзь "...ізмаў" і экстрэмісцкіх пачаткаў", "Аб перагляде некаторых вынікаў прыватызацыі, праведзенай з парушэннем законных правоў яго работнікаў" і "Аб скліканні Дзяржаўнай Думы" (якую, згодна сюжэту кніжкі, прэзідэнт Ельцын разагнаў у студзені 1997 года).

Пахавалі Ельцына 18 сакавіка на Навадзевічых могілках і ў той жа дзень новы кіраўнік дзяржавы звярнуўся да краіны па першым агульнанацыянальным тэлеканале з праграмнай прамовай. Асноўныя тэзісы — такія...

"Расія будзе кіравацца адзінаасобнай уладай. (...) Які заўгодна сепаратызм мы будзем знішчаць на корані, хопіць крыві і раздораў на нашай зямлі. На днях будзе прыняты закон, па якім любыя спробы сепаратызму альбо заклікі да аддзялення ад Расіі будуць лічыцца здрадай Радзіме і карацца вышэйшай мерай".

Часова закрыты газеты і часопісы. "Самым жорсткім спосабам будуць карацца ўсе злодзеі і хабарнікі" (у Беларусі мы пра такое ўжо чулі ў часе выбараў прэзідэнта...). "Русафобія будзе лічыцца крымінальным злачынствам з усімі вынікаючымі з гэтага наступствамі". Асобная гаворка — аб "каўказскіх народах і яўрэях". Большасць з іх "будуць дэпартаваны на сваю гістарычную Радзіму". Туды ж пашлюць і афра-азіятаў. Супраць Эстоніі, Латвіі і Літвы распачынаецца эканамічная блакада. "Любыя спробы Літвы тармазіць транзітныя перавозкі ў Калінінградскую вобласць прывядуць да рашэння гэтага пытання ваенным шляхам".

16 чэрвеня 1997 года: "Сёння ў 12 гадзін у Маскве абвясцілі вынікі рэферэндуму аб уз'яднанні народаў Расіі і Беларусі ў адзіную дзяржаву".

29 лістапада 1997 года. Масква. Красная плошча: "и настал Судный день". "Судовая сістэма Расіі працавала з красавіка месяца ў страшэнным напружанні. (...) Па меры завяршэння асобных працэсаў выносіліся і прыгаворы. Каму — 15, а каму і 25 гадоў без права на амністыю, а каму і вышэйшая мера пакарання. У цэлым да смяротнага пакарання было прысуджана 26723 зняволеных, з іх было адабрана 120 чалавек з вышэйшых сфер. Гэта было тое кола злачынцаў, якіх павінны былі ўсенародна пакараць смерцю праз павешанне на Краснай плошчы".

Сцэну пакарання сп. Святаслаў Росіч апісвае з асаблівай падрабязнасцю і замілаваннем: "В солнечный субботний день 29 ноября, на удивление теплый для этого времени года день, а было плюс 8 градусов, на Красной площади царил небывалый порядок..." І гэтак далей у такім жа стылі. На Красной плошчы любаваліся відовішчам гвалтоўнай смерці 60 тысяч чалавек "простага народа з усіх рэгіёнаў Расіі". Тэлетрансляцыя "гэтай небывалай яшчэ ў гісторыі падзеі" вялася на ўсе кантыненты. Цягнуўся гэты "апафеоз народнага правасуддзя" пяць гадзін. Пасля гэтага "засталася толькі дробная, але аб'ёмная праца па дэпартацыі з Расіі непажаданых элементаў".

А вось цытата з выступлення кіраўніка Расіі праз 12 дзён пасля крывавага шоу на Краснай плошчы: "Вы памятаеце, што ў маі гэтага года Расія, прызнаная правапераемніцай былога СССР, патрабавала ад Беларусі выдачы Шушкевіча і ад Украіны — Краўчука як здзейсніўшых разам з Ельцыным дзяржаўнае злачынства ў Белавежскай пушчы па ліквідацыі Савецкага Саюза (...) І калі Беларусь выдала Шушкевіча, які быў асуджаны на 25 год турэмнага зняволення, дык Украіна адказала адмовай. Што ж, час пакуль трывае..."

Павесіўшы і пасадзіўшы ў турму "галоўных злачынцаў", новае кіраўніцтва Расіі ўсур'ёз узялося за дзяржаўную ідэалогію і перафарматаванне краіны па імперскім узоры. "На тэрыторыі Расіі забаронена дзейнасць розных рэлігійных сектаў, каталіцкіх і іншых заходніх прапаведнікаў. (...) Агульная каардынацыя рэлігійнага жыцця краіны будзе ажыццяўляцца Патрыярхам рускай праваслаўнай царквы". Паступова ліквідуюцца аўтаноміі на тэрыторыі Расіі і ствараецца губернская сістэма кіравання краінай. Дзяржаўная Дума, распушчаная Ельцыным, зноў сабрана Лабанавым, каб надаць яго улaдзе легітымны характар, пацвердзіць яго паўнамоцтвы, — распускаецца зноў. Маўр, так бы мовіць, зрабіў сваю справу... Замест Думы — губернатары (па-нашаму "вертыкаль"). "Любыя спробы ўшчамляць рускае насельніцтва ў краінах, якія ўваходзілі ў склад Расіі да першай сусветнай вайны, будуць спыняцца, аж да скарыстання ваеннай сілы". "Расія будзе дабівацца роспуску НАТА". Потым Расія спрыяе раздзьмуванню ўжо, здавалася, затухаючага ваеннага пажару ў Босніі; узбройвае турэцкіх курдаў і правакуе іх на актыўныя дзеянні супраць Турэцкай дзяржавы, дапамагае Індыі супраць Пакістана.

21 мая 1998 года пачынаецца аперацыя "Хвойны водар". За пяць гадзін расійскія войскі ажыццяўляюць акупацыю Латвіі, Літвы і Эстоніі. Уварванне ў Прыбалтыку здзейснена адначасова з некалькіх плацдармаў, у тым ліку і з тэрыторыі Беларусі. І ў той жа дзень" арыштаваныя раніцою фашыствуючыя дэпутаты, міністры і чыноўнікі, лідэры рэакцыйных партый і рухаў, журналісты, якія цкавалі рускамоўнае насельніцтва, паліцэйскія чыны і вайскоўцы, зафіксаваныя ў гвалце супраць народа, былі той жа раніцою пагружаныя ў вызваленыя ад вайсковай тэхнікі эшалоны і вывезены ў Перм, Тамбоў, Цюмень".

Расія абвяшчае аб намеры "прыняць жорсткія меры супраць любой краіны, якая ўваходзіла ў Варшаўскі Дагавор, калі яна ўступіць у блок НАТА", прад'яўляе ультыматум Злучаным Штатам і Паўночна-Атлантычнаму Альянсу. Захад вымушаны адступіць пад націскам Расіі...

Так канчаецца першая частка кніжкі. Аўтар абяцае чытачам напісаць працяг пра тое, як "умацаванне Расіі прыводзіць да сутыкнення з Амерыкай, што ставіць свет на мяжу глабальнай катастрофы". Вельмі аптымістычная перспектыва...

Мне хацелася б думаць, што сп. Святаслаў Росіч — звычайны вар'ят і прадстаўляе толькі самога сябе, але ні ў якіх разе ні партыю, ні рух, ні тым больш — пэўны напрамак грамадскай думкі Расіі. А калі — не? Аднак кніжка, напісаная расійскім вар'ятам, надрукавана ў Беларусі накладам у 15 тысяч асобнікаў. У гэтым я бачу сімвалічны сэнс.

На заканчэнне нататкаў запытаюся ў чытачоў: што вы, шаноўныя, думаеце адносна "інтэграцыі"?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# Яшчэ раз пра яго

Сярод рэчаў, якіх ніхто не бачыў, але пра якія любяць гаварыць, безумоўнае першынство займае Бог. Нават у часы, калі камунізм, здавалася б, заняў цэнтральнае месца ў галовах людзей, пра Бога не забываліся. Хоць і ў "адмоўным" выглядзе, ён прысутнічаў у грамадскай свядомасці, у літаратуры, мастацтве. "Бог у дапамогу", "дзякуй Богу", "як трывога, дык да Бога", "на Бога спадзявайся, дый сам не аплашайся" — і шмат іншых устойлівых размоўных штампаў сведчаць, што Бог — актыўны дзеючы чыннік нават у атэістычным грамадстве. Складваецца ўражанне, што Ён неад'емны, невынішчальны атрыбут чалавечнасці, які так ці інакш праяўляецца у любых умовах.

Такім чынам, нягледзячы ні на што — "Бог сярод людзей". У гэтай простай формуле хаваецца шмат магчымасцяў і варыянтаў тлумачэння, і першае, што прыходзіць у галаву, — а ці можа быць Бог без людзей? Напрыклад, ці магчымы "бог раслін"? Канечне, пры жаданні можна сабе ўявіць "прапра-бога" рыб ці мурашоў, але такі рэлігійны прымітыў наўрад ці задаволіць чалавечыя патрэбы. Людскі Бог тоесны чалавеку, яго складаным сацыяльным і псіхафізіялагічным структурам. І хоць у рэлігійнай (хрысціянскай) традыцыі лічыцца, што Бог нязменны, што Ён адзіная канстанта ў свеце, закрадваецца крамольная думка, а ці не можа і Ён мяняцца ў часе і прасторы? Сапраўды, гісторыя сведчыць, што разам з грамадствам мяняюцца і багі, і той адзіны "сённяшні Бог" вядомы на Беларусі толькі апошнія 10 стагоддзяў. Раней жа нашы продкі жылі з другімі багамі, не падазраючы, што тысячагоддзямі яны "памыляліся", пакланяліся не таму, каму трэба. А можа, памыляемся зараз і мы, і на парозе стаіць новы, больш "ісцінны" бог, не адкрыты пакуль нашым невідушчым душам?

Не вельмі прыемнае пытанне, але чаму не паспрабаваць адказаць і на яго? А непрыемнае яно таму, што адказ выпадае з рамак звыклай хрысціянскай традыцыі: Бог і чалавецтва — сутворцы. Чалавецтва стварае Бога ў такой жа меры, як Бог стварае чалавецтва. Таму і мяняюцца яны — паралельна ці, дакладней, разам, пераходзячы з аднае формы ў другую, з аднаго ўзроўню на другі. Прычым сутворцам Бога з'яўляецца не асобны чалавек, а супольнасць, усё людства. У гэтым ёсць пэўная супярэчнасць: людзей шмат, а Бог адзін. Справа ў тым, што Бог — не рэч і не нейкая асобная істота (хай і звышмагутная), а гэта, з аднаго боку — найлепшая, стваральная частка чалавечнасці і чалавечых уласцівасцяў, а з другога — станоўчая, светлая перспектыва, аптымістычная мара, якая перасягае людскія магчымасці, вечная мэта — якая адсоўваецца ў будучыню разам з рухам чалавецтва. Бог у пэўным сэнсе — жыватворная ідэальная мадэль, аснова якой месціцца ў чалавечнасці, а вяршыні сягаюць за яе межы. Вось гэтая "па-за-межная", надчалавечая частка "мадэлі" кіруе лёсам і вызначае далейшыя шляхі людства, зваблiваючы яго сваімі зззяючымі вышынямі.

Ёсць, канешне, і чорная, разбуральная прорва, якая таксама вабіць і цягне ў свае глыбіні, але ў выбары паміж Богам і "д'ябальскай", песімістычнай "мадэллю" людзі часцей выбіраюць першае. Чаму так? Можа, таму, што час і гісторыя ідзе толькі наперад, усё жывое цягнецца ўгору, да святла і сонца, а жыццё таму і працягваецца, што ад пачатку перакананае ў сваёй вечнасці. Гэтая аксіёма існуе, пакуль дыхае і варушыцца хоць нейкая казюрка, і знікне разам з апошняй праявай жыцця. Гэтак жа і Бог: жыве, пакуль ёсць чалавек, а без чалавека — каму трэба людскі Бог? А ўсе дыялогі, спрэчкі, доказы, ухваленні і абвяржэнні толькі лішні раз сведчаць аб яго існаванні і нясуць свой уклад у развіццё боскай існасці, у "боскі прагрэс". Такое прыкладанне дыялектыкі камусьці можа падацца кашчунным. Ну што ж, у многіх народаў нельга ні рабіць выявы Бога, ні ўголас называць ягонае імя, аднак чалавек тым і адрозніваецца ад жывёлы, што ў пазнанні сутнасці свайго Бога не можа надоўга спыніцца, абмяжавацца ўжо вядомым. Так, відаць, наканавана яму — вечна несці свой крыж незадаволенасці і неспакою.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*





## Красавік — месяц паэтычны

"Спявайце, помнячы нязменна: Пакуль паэты будуць пець — Не быць Радзіме безыменнай, Зямлі бацькоў — не анямець!" Менавіта гэтыя лірычныя радкі паслужылі лейтматывам сустрэчы навучэнцаў і супрацоўнікаў Горацкага педвучылішча з паэтамі А. Дзеружынскім, І. Курбекам, А. Кудласевічам, П. Чабаром (Ільюкевічам). Сваю творчую справаздачу перад педагогамі трымалі госці ў актавай зале нашай навучальнай установы 11 красавіка.

Красавік — месяц традыцыйны для падобных мерапрыемстваў у сценах ГПВ. Сюды ў апошнія гады наведаліся А. Пісьмянкоў, В. Супрунчук, К. Тарасаў, С. Чыгрын, С. Мінскевіч, У. Марук і іншыя.

В. СУПРУН,
выкладчык

## Купалаў урок

У зале Мінскага музычнага вучылішча адбылася сябрына, прысвечаная 115-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. Прыйшлі выкладчыкі, навучэнцы, аматары паэзіі Янкі Купалы. Цікавымі былі аповеды Сяргея Панізніка ды Людмілы Давідоўскай пра дзяцінства паэта. З роднай мовы, матчынай песні пачыналіся вершы паэта. Яны цудоўна кладуцца на музыку, і творчасць многіх беларускіх кампазітараў гэта пацвярджае.

Цесная творчая сувязь была паміж Янкам Купалам і Іосіфам Жыновічам. Часта, як успамінаў І. Жыновіч, Купала прасіў прыйсці і пайграць. Любіў ён слухаць песні "Ой, палын мой, палыночак", "Ой, ты, доля мая, доля". І кожная сустрэча з Купалам прыносіла ўпэўненасць у сваім прызванні цымбалісту, вясковаму хлапчуку Юзіку Жыновічу. Скрыпку, цымбалы, ліру і іншыя народныя інструменты Купала слухаў з асалодай. Часта і сам браў у рукі скрыпку.

Творчасць Купалы натхняе музычныя калектывы вучылішча: хор пад кіраўніцтвам кампазітара А. Рашчынскага і ансамбль цымбалістаў пад кіраўніцтвам А. Палесавай. У выкананні маладзёжнага хору прагучала песня А. Рашчынскага на словы Купалы "Ой, ты месяц". Навучэнцы чыталі на сябрыне свае самыя любімыя вершы песняра — з цудоўнай інтанацыяй, чыстым беларускім вымаўленнем. Гэта быў сапраўдны ўрок любові да роднай мовы, народнай песні і інструментальнай музыкі.

З. НАСЦЕНКА

## Нам не страшны... "Залаты воўк"

Ды і чаго яго баяцца, калі "Залаты воўк" — не што іншае, а першы Міжнародны мінскі фестываль рэкламы, які з 15 па 18 красавіка праходзіў у сталіцы нашай дзяржавы. У ім прымалі ўдзел рэкламісты не толькі Беларусі, а і Расіі, Украіны, краін Балтыі... Фестываль "Залаты воўк-97" годна працягвае справу сваіх папярэднікаў, а імі былі міжнародны семінар "Беларускі рынак рэкламных паслуг" і міжнародная канферэнцыя "Беларусь. Рэклама. Восень-96". Гэтым разам абмяркоўваліся праблемы дзяржаўнага прававога рэгулявання рэкламнай дзейнасці, асаблівасці псіхалогіі спажыўца, праводзіліся конкурсы тэле- і радыёрэкламы, друкаванай прадукцыі і рэкламных артыкулаў. Пераможцы атрымалі ўзнагароды.

## Можна падпісацца

У часопіса "Всемирная литература" ўжо з'явіліся свае сталыя чытачы, але пакуль што ён паступае толькі ў розніцу, што часам выклікае нязручнасці. Разумеючы гэта, "ВЛ" вырашыла праводзіць падпіску. Цяпер можна падпісацца на другое паўгоддзе.

Часопіс плануе апублікаваць раман Ф. Марсо "Крызі", што раней на рускай мове не друкаваўся і за які аўтар атрымаў Гановерскую прэмію. У рэдакцыйным партфелі знаходзіцца таксама невядомы нашаму чытачу твор выдатнай прадстаўніцы рускага замежжа І. Сабуравай "Пра нас", вершы вядомай амерыканкі — лаўрэата Пулітцэраўскай прэміі Э. Сексон "Па дарозе ў пекла" і іншыя творы.

ПАЭЗІЯ

Данута БІЧЭЛЬ



# Трымаецца толькі любоўю...

### Надта сябе шкада

*Надта сябе шкада.*
*Ды ўжо конікі заіржалі.*
*Буду я вершы складаць,*
*аж пакуль не зайдуся з жалю.*

*Горкіх вачэй слата,*
*так пякуць ад слёз, як ад жару.*
*Буду я вершы складаць,*
*аж пакуль не зайдуся з жалю.*

*Не пытаюць — што табе даць?*
*ці: чаго ты плачаш, Дануся?*
*Буду я вершы складаць,*
*аж пакуль не зайдуся.*

*Каб хто родны быў, то спытаў.*
*Мне чужыя, усім - чужая.*
*Буду вершы ўначы складаць,*
*аж пакуль не зайдуся з жалю.*

### Запоўніла цемра сад

*Запоўніла цемра сад.*
*Сабак бяздомных прыспала.*
*Ціхутка мая краса*
*сама сабою завяла.*

*Хутка ўжо буду спаць.*
*Ціша, маркота, морак.*
*Бяздомны выгнуты пляц,*
*на ім мірыяды зорак.*

*Гартаю начны альбом,*
*штоночы адно і тое —*
*касцы пад маім вакном*
*косяць неба начное.*

*Скідае тата ці муж*
*каснік агністай істужкі.*
*Раз'яснела неба смуж,*
*зоркі ляцяць, як птушкі.*

### Цётка

*Цётка...*
*Як песні зваротка.*
*Як песні радочак...*
*Паеду да Цёткі —*
*пляменніца ўсё-ткі,*
*займу свой куточак.*

*Стагоддзя пачатак.*
*Не людзі, а статак,*
*ніякае мэты.*
*А нейкі дзесятак*
*мужчын і дзяўчатак*
*даюць ім газеты.*

*Чытанне для дзетак.*
*Навукі палетак.*
*Сяброўскія складкі.*
*Заглянула сонца —*
*і ў наша ваконца, —*
*няма ні дзіцяткі.*

*Народы-суседзі*
*у шчырай бяседзе*
*у вольнай пастаці.*
*А дзе ж наш народзе?*
*А Цётка не родзіць,*
*а Цётка не маці.*

*Вусаты, хвастаты*
*і ўсё супастаты*
*заходзяцца лаем.*
*І школьнай граматыкі*
*правілы маем,*
*а мовы не маем.*

*Няўжо ты, араты,*
*зямлі сваёй страты*
*не здольны прыкмеціць?*
*А душачка Цёткі,*
*бы промень зіхоткі,*
*усё яшчэ свеціць.*

### Ялта, 25 мая

*У Ялце заўсёды свята.*
*І Ялта не вінавата.*

*Блакітнае чорна мора*
*не гоіць Паэтава гора.*

*Падушка зліта крывёю.*
*Не цешыць радок прыбою.*

*Анёлы-чаіцы-плачкі.*
*Мора не ведае спячкі.*

*Мора прачыста ўздыхае.*
*Ніхто мяне не кахае.*

*Ляцела кроў, запяклася.*
*Душа ў бары засталася*

*каля курганаў і вежаў...*
*О, белае крылле вершаў!*

*Няхай узыйдуць і сняцца!*
*25 і 5 і 15.*

### Памірала маці

*Памірала маці. На крэсле*
*прасядзеў дзень — як год.*
*І куды вас коні панеслі?*
*У Расею. На ўсход.*

*А на захадзе сонца грэе*
*і зрэдку вясна.*
*А Расея гора разве —*
*чужына яна.*

*Беларусь будзе светла сніцца —*
*неабдымны сусвет.*
*Будзеш кніжнікам у чужынцаў,*
*бяздольны Паэт.*

*А ўначы блукаеш чаго Ты,*
*збіваеш расу?*
*Дагрызуць Тваё грудзі сухоты.*
*І дагрызуць.*

*Паддавацца, хлопцы, не смейце*
*хвілінам пакут.*
*Не ўцякайце, хлопцы, ад смерці,*
*жыццё наша тут.*

*Тут Пагоня наша паўстане,*
*дзе продкаў дамы.*
*Мы не парабкі, не расіяне.*
*Русіны — мы.*

### У светлай краіне

*У самотнай у светлай краіне —*
*не даехаць тутэйшай дзяўчыне —*
*там, у Ялце, душа Яго стыне.*

*Дай жа, Божа, Паэту Максіму*
*ў Божым садзе цяпло і радзіму,*
*дапусці да Прачыстага Ліку.*

*Дапусці да Прачыстага Ліку*
*і паэтак Ларысу, Людвіку,*
*Алаізу і Вераніку.*

### Васіль Быкаў малюе лодку Вясной на беразе Нёмана

*Там лёд расстрэльвае вясна.*
*Чакаем добрую паводку.*
*Ужо Васіль малюе лодку,*
*прыбег на Нёман даўдна.*

*А ў галаве Круглянскі мост,*
*той партызанскі хлопец Міця.*
*Тут вараннё, гракі ў блакіце,*
*тут у шпікоў падцяты хвост.*

*Ён выдаў кнігу не адну —*
*адзін, як Нёман, задумёны.*
*Над імі каркаюць вароны,*
*чытае свет яго вайну.*

*А тут не свет, а блізкі свет.*
*Усіх бы тут пазамяталі,*
*тут не ў пашане божы талент,*
*людзей не любіць самаед.*

*Мазгі праела ім іржа.*
*Таму тут кожны свойскі хлопец*
*задушыць Быкава і ўтопіць,*
*прыб'е цвікамі да Крыжа.*

*Сталіца кліча не адна.*
*Шануе геніяў Еўропа.*
*Даесць і Быкава хвароба,*
*праходзіць тут яго вайна.*

*Сярод здзічэлых воўчых зграй*
*тварыць, гібець як небараку,*
*усё жыццё ісці ў атаку*
*і паміраць за родны Край.*

### Ці ёсць такая краіна

*Ці ёсць такая краіна*
*вось зараз, дзе ў людскай хаце*
*маці выхоўвае сына,*
*як Езуса Хрыстуса Маці?*

*Драгічын, Скідаль і Мядзель.*
*Там ёсць зацішны куточак,*
*дзе аслабелыя маці*
*не маюць страху за дочак?*

*Астатнія людскія справы*
*вершацца самі сабою.*
*Што даў нам Божа ласкавы,*
*трымаецца толькі любоўю.*

### А чаму ты, мой тата, прыходзіш у сны

*А чаму то мы голыя, як бізуны*
*перад сытай і соннай Еўропай?*
*А чаму ты, мой тата, прыходзіш у сны*
*да мяне з нейкай гадкай хваробай?*

*А чаму ўсе дарогі вядуць у Маскву,*
*дзе сцінаюць дурным галаву?*
*Ці ахвяраў стагоддзяў замала,*
*каб няволя далей панавала?*

*А чымі касцьмі трэба грэблю масціць,*
*а ў які ж бок за бацькам ісці,*
*каб не ўмерці ад сораму перад сабой,*
*каб не йсці, як скаціне на ўбой?*

### Таму мне светла

*Шнурую словы ў шнурочак,*
*так посна, так нескаромна.*
*Таму мне светла па начах,*
*што цёмным па начах цёмна.*

*Іду разоркай начною,*
*як зорка да вадапою.*
*Ідзе дарога ў бяссмерце,*
*але не на гэтым свеце.*

*А людзям трэба, як лепей.*
*А без людзей — мне раскоша.*
*Наш Ойча, які ёсць на небе,*
*свяціся Імя Тваё, Божа!*

*Пакуль натхнення цурочак*
*не разліўся ў світанне,*
*шнурую словы ў шнурочак —*
*Святой Марыі ў літанне.*

### Сяброўства

*Сябраваць хацела з табой,*
*нібы ўлетку расінка з травой.*
*Ты таксама сябруеш са мной,*
*як сабака з балонкай малой.*

*А вялікі сабака не дзеліць*
*свой барыш з некім напапалам.*
*У яго нехта косткай пацэліць —*
*ён згрызе сваю костку і сам.*

*А вялікі сабака не мае*
*кожны дзень шмат касцей за душой.*
*Пашануе, ён шмат напаткае,*
*то падзеліцца з сучкай чужой.*

●

*У карагодзе хмарак і Анёлаў*
*сусвет трымае белы галубок,*
*бо даў яму на гэта сілу Бог.*

*Давайце заспяваем са святымі!*
*Няхай на крылах галубок падыме*
*наш Край з дрыгвы і да нябесных брам*
*па той дарозе аж у Божы Храм.*

ПРОЗА

Міхась ДАНІЛЕНКА

# АПАВЯДАННІ ПРА РЭЧЫ



## СТАНОК

Гэта быў не такі ўжо стары, але і не надта новы такарны станок. Стаяў ён у дальнім кутку цэха. Нейкі час на ім працаваў малады ўсмешлівы рабочы. Ён прыходзіў задоўга да пачатку змены, ставіў у тумбачку, дзе ляжалі інструменты, бутэльку кефіру (часам — малака, нярэдка — пару ўкрутую звараных яек ці бутэрброд з вяндлінай), яшчэ раз праціраў да бляску дэталі станка і ўстаўляў у супарт разец...

Рабочы чуйна прыслухоўваўся, як працаваў станок, пільна сачыў, як разец здымаў міліметровай таўшчыні металічную стружку з сіняватым адлівам. Часам вымаў амаль гатовую дэталь, правяраў мікрометрам і задумена ссоўваў на патыліцу выцвілы ад часу берэт.

Жыццё станка прадаўжалася ад змены да змены. Пасля маладога заступаў на працу пажылы мужчына ў акулярах. У яго былі сівыя, акуратна падстрыжаныя вусы і рэдкая бародка. Маладзейшыя суседзі рабочага часам жартавалі:

— Іванавіч!

— Чаго табе? — адзываўся рабочы, не перапыняючы працы.

— Падвяжы бараду, каб не ўкруцілася ў станок.

Іванавіч нязлосна адмахваўся ад нахабнікаў, як ад дакучлівых мух, папраўляў скураныя нарукаўнікі (яны захоўваліся ў той жа тумбачцы, дзе да таго стаяў кефір і ляжалі яйкі, што прыносіў маладзейшы зменшчык).

У скрынцы побач са станком за змену вырастала ладная кучка дэталяў. Часам іх было больш, часам — менш. Але гэта залежала не толькі ад станка, а і ад таго, з якім настроем на ім працавалі Іванавіч ці малады.

Так праходзілі тыдні, месяцы, гады. Некаторыя станкі ў цэху замянілі на навейшыя. Гэты станок таксама чакаў, што яго вось-вось заменяць. Але цяпер чамусьці на ім пачаў працаваць новы чалавек. Ён быў сярэдняга веку, хуценька зіркаў па баках зладзеяватымі вачыма. У тумбачку абеды не прыносіў. У перапынках нярэдка адлучаўся. Падоўгу стаяў на прахадной — некага чакаў. Часам туды да яго прыязджаў на старэнькім мапедзе худы, як фасолевы стручок, чалавечак у цюбецейцы. Яны аб нечым перамаўляліся, і неўзабаве той на мапедзе знікаў у мітуслівым кругазвароце вуліц. Часцяком (калі паблізу не было майстра) новенькі абточваў нейкія дэталі. Іх звяраў потым па чарцяжы (той чарцёж ён ашчадна хаваў у патайнай кішэні спяцоўкі).

Так цыганаватага выгляду токар працаваў амаль з тыдзень. А перад выхадным, калі ў цэху нікога не было, пачаў збіраць тое, што вытачыў. Ля прахадной яго чакаў ужо вяртлявы гаспадар мапеда.

Вось — наразны ствол. Вось — рукаятка. Спускавы механізм. Зіркнуўшы, бы злодзей, па цэхавым пралёце, чорны мужчына ўсміхнуўся. (Калі б станок быў жывой істотай, ён бы здзівіўся: усмешка на гэтым худым маршчыністым твары была помслівай і жорсткай).

"Пушка" гатова", — прасіпеў сам сабе чорны і ашчэрыў зубы.

У яго руцэ награвалася металічная рукаятка пісталета... Станок маўчаў... А токар пасігаў да прахадной.

## ПАДКОВА

Хлопчыкі знайшлі яе — падкову — у асеннім лесе.

Стаяў ціхі вераснёвы дзень. У верхавінах бяроз не шалясцеў ветрык. Сярод кронаў ужо часцяком праглядвалі залацістыя каснікі — дрэвы рыхтаваліся, каб услаць пад сабою дол лістотай. Цвіў верас. Часам у ім трапляліся амаль чорныя капялюшыкі (калі глядзець зверху) баравікоў. У тых мясцінах іх так і завуць — верасовікі. Хлопчыкі былі блізняты. Абодвум толькі што споўнілася па дзесяць гадоў.

— Глядзі, Івасік, што я знайшоў! — падаў адзін з іх голас.

— Ведаю: зноў — цар-грыба.

— Ды не. Не ўгадаў.

Івасік падняў над галавою нешта такое, што паблісквала на сонцы. Той, каго называлі Івасікам, з дзіцячай непасрэднасцю наблізіўся да брата. Здзіўлена прысвіснуў, смешна надзьмуўшы шчокі:

— Ого! Падкова! Адкуль яна тут узялася?

І сапраўды, цяжка было здагадацца, чаму на гэтай верасовай палянцы, якую абкружаў бярэзнік (далей ішлі светлыя баравіны), аказалася падкова.

— Я ведаю! — Івасік паглядзеў на брата вялікімі шэрымі вачыма. — Учора па небе праязджаў на калясніцы Ілья-прарок (ты ж чуў, як грымела?), і конь згубіў падкову.

Брат (яго звалі Руслан) адмоўна пакруціў галавой (у казкі ён, вядома ж, як і Івасік, не верыў), уважліва разглядаў падкову. Яна была амаль новая. Толькі ў асобных месцах — мусіць, пасля дажджу — пакрылася плямінкамі ржы.

— Аднясём дзеду. Няхай прыб'е над ганкам. На шчасце, — рашылі абодва.

Івасік з Русланам амаль кожнае лета прыязджалі да дзеда, які ўжо некалькі гадоў летам жыў у вёсцы. Ён купіў там дом, трохі яго паднавіў, і цяпер з вясны наведваўся сюды грэць, як жартаваў унукам, старыя салдацкія косці.

Унукі здзівіліся таму, як абрадаваўся дзед іхняй знаходцы.

— Не, то не з нагі каня Ільі-прарока, — растлумачыў ён. — Сёння раніцай над лесам кружыў пажарны верталёт. Мусіць, лётчык скінуў вымпел лесніку. Паперыну, значыць. І прывязаў яе да падковы...

Івасік з Русланам засумняваліся ў тым. Але дзеду не пярэчылі. Праз колькі хвілін адшукалі кавалак наждачнай паперы, адшаравалі падкову, і яна заззяла срабрыстым бляскам. Прыбіць падкову над ганкам дзед даверыў унукам. Адзін цвік забіў Руслан, другі — Івасік.

— Цяпер наш дом будуць абыходзіць ліхадзеі, — падрахаваў справу дзед.

Падкова вісела над дзвярыма. Той, хто заходзіў у дом, мог бачыць яе — падобную на казачны сярпок маладзіка. Але калі на наступную вясну дзед (а пасля і ўнукі) прыехалі ў вёску, падковы не ўбачылі. Нехта выламаў дзверы, вынес усе старыя рэчы (не пагрэбаваў ватоўкамі і гумавымі ботамі), адарваў і падкову.

"Дзе яна цяпер? Можа, зноў вандруе ў якім пажарным верталёце? — думаюць унукі. А можа, валяецца затаптаная ў гразі, куды выкінулі яе злыдні?"

## БУРШТЫН

Пясчаная каса ўразалася далёка ў мора. Можна было ісці і ісці ад берага і ўзровень вады ўсё не павышаўся. Толькі недзе за кіламетр паступова мора паглыблялася. Вада тут была халадзейшай, ногі асцярожна абмацвалі дно. На беразе раслі рэдкія сосны. Відаць, ад таго, што зімою вятры дзьмулі амаль заўсёды з мора, галіны іх былі нахілены ўбок берага — быццам дрэвы прасілі, каб зямля не адступала ад іх, каб хвалі, што ляніва набягалі раз за разам, не адваёўвалі па кавалачку бераг.

Каса была ўлюбёным месцам двaіх — Зенты і Германа. Уласна Зента, на правах знатака гэтых мясцін, і прывяла, як толькі яны пазнаёміліся ў доме адпачынку, сюды Германа. Пясок (Герман пасля прызнаваўся: нідзе больш не сустракаў такога) быў залацістага колеру, драбнюткія жарсцвінкі амаль нячутна прасочваліся між растапыраных пальцаў. За дзень пясок награваўся, ён нават не астываў за кароткую летнюю ноч, і калі раніцай яны з Зентай лажыліся на разасланыя палавічкі, з зямлі адчувалася не растрачанае цяпло. Яны бяздумна ляжалі. Перагаворваліся. Усё было даўно вырашана. Закончыцца адпачынак, і Зента паедзе ў далёкі адсюль горад, дзе будзе працаваць поруч з Германам. Ніколі ім не было так добра. "Калі ёсць на свеце шчасце, — думала Зента, — і людзі ў яго вераць, дык гэта было менавіта тое, што ёсць сёння ў іх". Шчасце дакрануцца да Германавага пляча, глядзець на яго мускулістыя рукі, бачыць, як пабялелі ад сонца яго густыя валасы, адчуваць саланаваты прысмак вуснаў. А Герман думаў, што, мусіць, каханне часам само знаходзіць чалавека. Трэба быць толькі цярплівым і, крый Божа, не спалохаць яго. А то выпырскне з рук, як вунь тая чайка, што падхоплівала з вады хлебныя крошкі, пакуль яны ёй іх кідалі, а потым паляцела — знікла над блакітнай марской роўняддзю.

Аднойчы яны так ляжалі і перасыпалі з далоні на далонь пясок.

Раптам Зента паказала Герману цёмны цвёрды камячок.

— Глядзі, што я знайшла.

Той пакруціў камячок перад сабой і недаўменна паглядзеў на сяброўку.

— Гэта бурштын, дзівачок, — радасна засмяялася Зента. — Марская смала. Мільёны гадоў праляжала на дне мора, а вось хвалі вымылі яе нам.

— Бурштын, — ад захаплення выдыхнуў Герман.

Яны адмылі камячок, глядзелі праз яго на сонца. Па колеры бурштын нагадваў маленькі злепачак мёду. Яго прыемна было трымаць у руцэ, пераварочваць перад сабой, дзівіцца на сонца. Пасля яны доўга хадзілі па беразе (як і іншыя, хто тады адпачываў), шукалі бурштын. Толькі Герману пашанцавала: знайшоў шчэ малюсенькі кавалачак.

— Зробім мне на памяць пацеркі, — загарэлася Зента.

У курортным гарадку была майстэрня, дзе з бурштыну выраблялі пацеркі. Стары майстра доўга разглядаў праз лупу прынесены маладымі людзьмі бурштын, скептычна хмыкаў, але вытачыць пацеркі згадзіўся. Вядома, больш шансаў бурштыну ішло з яго запасаў. Ён назваў цану. Зента з Германам падлічылі: ці хопіць ім на чыгуначныя білеты, і згадзіліся. Цана была не малой, але з гэтым яны не лічыліся.

Зента насіла тыя пацеркі на прыгожай шыі і зімой, і летам. Неяк затрымалася на працы ў інстытуце і не пазваніла, каб муж сустрэў (Герман ляжаў з высокай тэмпературай).

Перад тым, як увайшла ў двор дома, дзе жыла, з цемры перад жанчынай раптам вынырнулі дзве шыракаплечыя постаці.

— Грошы і пярсцёнкі, — схапілі Зенту за рукі.

З яе сарвалі шапку, выхапілі сумачку. Адзін ірвануў пацеркі. Нітка, на якой былі нанізаны вытачаныя шарыкі, не паддавалася. Зента адчувала, што не хапае дыхання. Яна адштурхнула таго, што рваў за нітку. Другі піхнуў яе ў бок. Яна ўдарылася галавой аб слуп (ліхтар не свяціў) і на момант страціла прытомнасць. Нібы праз сон толькі пачула, як адзін крыкнуў:

— Гера! Змываемся!

...Цёзку яе мужа ўсё ж міліцыя адшукала. Шапку з дарагой норкавай футры бандзюгі, вядома, збылі. Прадалі і гадзіннік. А вось пацеркі не паспелі. Зента з Германам пасля доўга прасейвалі зямлю на тым месцы — і адшукалі яшчэ тры бурштынавыя шарыкі. Яны згубіліся, калі рабаўнікі рвалі з шыі пацеркі. Слёзы мора.

## ЛІФТ

Ён паскрыпвае, патрэсквае, калі кабіна паволі падымаецца на дзевяты паверх. Урэшце насельнікі гэтага дома не абцяжарваюць сябе, каб пехатой падняцца нават на другі. Яны з сілай тыцкаюць пальцам на кнопку выкліку, ліфт пад'язджае і паслухмяна расчыняе кабіну для іх паслуг.

Жанчына, што прыходзіць у пад'езд, каб прыбраць, доўга пакутліва круціць галавой, калі саскаблівае, змывае чарговыя надпісы на сценках кабіны. Да таго, што пад нагамі застаецца амаль кожны дзень шмат акуркаў, яна ўжо неяк прывыкла. Змятае іх венікам у прынесенае вядзерца. А вось да пісаніны не можа адносіцца спакойна.

— Божа, — гаворыць яна сама з сабой, — і не паадсыхаюць рукі ў тых, хто гэта зрабіў.

На столі кабіны нехта з ночы копацццю панамалёўваў чорныя крыжы. Прыбіральшчыца калісьці пераехала ў горад з вёскі, дык памятала, як пасля ўсяночнай на вялікдзень бацькі яе асвячалі крыжамі жытло, калі раненька вярталіся з царквы. Але сучасныя варвары рабілі гэта назло. Яны даўно паадрывалі са сценак кабіны металічныя дошчачкі, дзе тлумачылася, як трэба карыстацца ліфтам. Амаль на кожнай пляцоўцы паверхаў нехта спраўна выкручваў маленькія сігнальныя лямпачкі пад кнопкамі выкліку. Манцёр, які рабіў час ад часу, як ён казаў, прафілактычны агляд ліфта, недаўмяваў:

— І куды яны прыладзяць тыя лямпачкі?

— Можа, праглыне, — выказала здагадку прыбіральшчыца.

Малады вясёлы хлапец, які прыйшоў з інструментамі, любоўна паляпваў далонню сценкі кабіны і гаварыў да ліфта, як да жывога:

— Не хвалюйся, стары. Вось калі паскрыпіш, паскрыпіш, ды назаўсёды станеш, тады злыдні, што цябе ўвесь час псуюць, зразумеюць, як лёгка цягнуцца з сумкамі на восьмы ці сёмы паверх.

— Зразумеюць яны, чакай, — скептычна хмыкнула жанчына.

Аварыйшчыка яна трохі ведала. У мінулым годзе бачыла, як ён з перасоўным ліхтарыкам нечага шукаў у яме пад спыненым ліфтам. А над ямай нагнуўся віхрасты хлапчук і нешта паказваў слесару.

— Што вы там шукаеце? — не выцерпела жанчына.

— Ды вось ключы ён упусціў у ліфтавую шахту, — растлумачыў юнак.

Хлопчык вінавата маўчаў. А слесар разграбаў шматлікія паперкі з-пад цукерак, смецце, якога насыпалі тыя, хто выходзіў з кабіны ліфта.

Цяпер жанчына працірала анучкай сценкі кабіны, саскаблівала надрапаную ("Ці не цвіком, нягоднікі, малявалі?") пахабшчыну і дзівілася сама сабе жорсткасці сённяшніх людзей. У двары, дзе яна прыбірала, ліхтары былі паразбіваныя, як толькі засялілі гэтыя дамы. Пазрывалі лісты з дахаў альтанак. Некуды сцягнулі нават лаўкі, хоць стойкі ў іх былі адліты з чыгуну ("Трэба ж мець такую сілу!").

Жанчына гаротна паківала галавой, і так, як і манцёр, звярнулася да ліфта са словамі:

— Эх, галубок, галубок! Мусіць, нам выпала доля такая. Ты людзям дабром адплачваеш, а яны табе — ганьбаю. Не крыўдуй на іх, даражэнькі. Кажуць: гарбатага толькі труна выправіць...

## Вобразы роднага краю



У самым цэнтры Чыкага, у вестыбюлі мэрыі, дзе побач на плошчы ўзвышаецца славутая вылітая з металу "Жанчына" Пабло Пікасо, нядаўна адкрылася выстава твораў двух мастакоў — Леаніда Асенняга і Анатоля Упарта. Абодва яны прыехалі ў розны час у Чыкага з Беларусі, і гэта, натуральна, вызначае характар і накірунак іх творчасці. Таму што немагчыма збегчы ад сваёй памяці, ад вобразаў той зямлі, дзе нарадзіўся і вырас, вырвацца з сілавога поля прыцягнення яе духоўнасці.

Л. Асенняму ў наступным годзе будзе пяцьдзесят, у Беларусі ён быў вядомы і як мастак і як цікавы архітэктар-рэстаўратар. Ён, напрыклад, прымаў актыўны ўдзел у рэстаўрацыі такіх сусветна вядомых помнікаў беларускай архітэктуры сярэднявечча, як замак Радзівілаў у Міры, Музей народнага мастацтва ў Ветцы, Траецкага прадмесця ў Мінску ды іншых. Сярод яго цікавых рэканструкцый — пошук і аднаўленне старадаўняга беларускага народнага тэатра "Батлейка".

Магчыма, таму ў яго творчасці так спалучаны і цікавасць да архітэктуры, і чыста мастакоўскія, жывапісныя задачы. На выставе не вельмі багата твораў, але яны сведчаць менавіта пра гэта. Хваляюць напісаныя алеем мінскія краявіды — "Вуліца Гандлёвая", "Царква св. Аляксандра Неўскага". Архітэктурныя матывы асноўныя і ў невялікіх па памеры акварэлях Л. Асенняга. Ён малюе Астанкінскі палац у Маскве, архітэктурныя помнікі ў Пушкіне, пейзаж у Празе, і штораз падкрэслівае і колерам, і кампазіцыяй дзівосную гармонію архітэктуры і навакольнага асяроддзя, пейзажу. Безумоўна, жывучы ў Чыкага, нельга не быць зачараваным яго архітэктурнай непаўторнасцю. Таму, напэўна, і была напісана Л. Асенніда такая карціна, як "Даўнтаўн Чыкага", дзе за строгім рытмам і амаль абстрактнай дэкаратыўнасцю мы бачым знаёмыя абрысы вядомых будынкаў, створаных найвыдатнейшымі дойлідамі нашага стагоддзя.

Другі мастак, творы якога бачым на гэтай выставе, А. Упарт — яшчэ зусім малады, яму ўсяго дваццаць адзін год. Малое ён з дзяцінства, да ад'езду з бацькамі ў Амерыку паспеў скончыць у Мінску Мастацкі ліцэй. Тут ён паступіў у школу пры Чыкагскім Арт-Інстытуце, дзе вучыцца і зараз. Творчая індывідуальнасць А. Упарта яшчэ толькі фармуецца. Як ён сам прызнаецца, яго натхняюць беларуская іканапіс і дойлідства, гатычныя вітражы і візантыйская мазаіка, мастакі рускага авангарда і Вермеер, Врубель... Увагу наведвальнікаў выставы прыцягвае яго праца "Няміга", карціна, напісаная, нібы абраз, алеем па дрэве. Тэхніка жывапісу А. Упарта нагадвае мазаічную. Малады мастак нібы дзеліцца ў творы сваім эмацыянальным успрыманнем шматвяковай і шматпакутнай гісторыі легендарнай ракі, імя якой дало назву карціне. Падобнае ж запрашэнне да роздуму і ў выкананых у той жа тэхніцы карцінах А. Упарта "Нараджэнне блакітнага крышталю", "Формула пейзажу".

Вельмі добра, што ў пошуках сваёй творчай манеры А. Упарт ставіць перад сабой складаныя мастакоўскія задачы. У рознай тэхніцы — афорт, літаграфія, туш на паперы — выкананы і яго графічныя творы, што мы бачым на гэтай выставе.

А. Упарта ўжо заўважылі ў Арт-Інстытуце і запрасілі працаваць у Prints and Drawings Department гэтага музея. Ён набывае прафесію рэстаўратара, прадаўжаючы цікавіцца гісторыяй мастацтва ды складанымі тэхнікамі друкаваных форм.

Выстава твораў Леаніда Асенняга і Анатоля Упарта, арганізаваная аддзелам культуры мэрыі і Беларускім каардынацыйным камітэтам Чыкага, была прысвечана нацыянальнаму святу Беларусі — Дню Незалежнасці 25 сакавіка.

**Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ**

*На здымку: Леанід Асенні і Анатоль Упарт на выставе ў мэрыі Чыкага*

МУЗЫКА

# Манюшка. Нібыта ўпершыню!

## У СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ ДРУЖБЫ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ НОВАГА НОТНАГА ЗБОРНІКА: "ПЕСНІ З-НАД НЁМНА І ДЗВІНЫ"

Той, каго называюць класікам польскай музыкі, жывіў яе самабытнымі інтанацыямі беларускага фальклору.

Спакровіў яе, музыку, з мелодыкай беларускага слова (што гэтак выразна выявілася і праз сённяшнія пераклады тэкстаў яго песеннай спадчыны).

Жыў ёю, музыкай, у мінска-віленскім, тутэйшым асяроддзі.

Бо нарадзіўся з ёю, сваёй музыкай, на зямлі беларускай, у маёнтку непадалёк ад Мінска — Убелі...

Але ж хто гэтага не ведаў!

Ведалі. Толькі гаварылі пра такія "агульнавядомыя" рэчы нячаста. І меркавалі пра іх было "не прынята". Пераасэнсаванне стасункаў польскага кампазітара Станіслава Манюшкі з беларускай культурай пачалося, можна сказаць, у нашы дні, калі сваім гістарычным канцэртам чынннікі фестывалю "Адраджэнне беларускай капэлы" вярнулі землякам такую, аказваецца, родную часцінку творчага свету выдатнага музычнага рамантыка. Называўся той канцэрт сімвалічна і ёміста: "Манюшка на радзіме".

А потым былі новыя канцэртныя праграмы, асветніцкія акцыі Нацыянальнага аб'яднання "Беларуская Капэла", у тым ліку й з удзелам дзеячаў польскай культуры, якія вывучаюць і прапагандуюць творчасць С. Манюшкі.

І вось — "Песні з-над Нёмна і Дзвіны". Сабраныя пад адной вокладкай усе 22 творы на вершы Яна Чачота (у беларускіх перакладах, з асобна пададзенымі тэкстамі па-польску) сталіся першым такога кшталту Манюшкавым нотадрукам і першым — на радзіме кампазітара.

Словы "першы", "упершыню" гучалі падчас прэзентацыі зборніка рэфрэнам, — у выступленнях мастацтвазнаўцы Вольгі Дадзіёмавай, лідэра і кіраўніка "Беларускай Капэлы" Віктара Скорабагатава, рэдактара вершаваных тэкстаў "Песень..." і перакладчыка Уладзіміра Мархеля.

Так, гэта першае пасля смерці С. Манюшкі выданне твораў кампазітара на ягонай радзіме.

Першае выданне песень, вернутых працаю перакладчыкаў да першагуку — беларускага слова.

Першы нотазбор, пра каштоўнасць якога можна гаварыць не толькі з метадалагічнай і выканальніцкай пазіцый, а і з навуковай. Бо ўкладальнікамі яго — Ганнай Каржанеўскай, Уладзімірам Мархелем ды Віктарам Скорабагатавым — зроблены навуковы адбор матэрыялу, складзены навуковы каментар, змешчаны тэксты песень на польскай мове. (Між іншым, выпраўлена даўняя памылка энцыклапедыі, паводле якой на Чачотавы вершы Манюшка напісаў 12 твораў: у новым выданні іх амаль удвая болей.)

"Песні з-над Нёмна і Дзвіны" — першае выданне, з якога пачалося ўвасабленне праграмы "Беларускі гістарычны нотазбор". Нацыянальнае тэатральна-канцэртнае аб'яднанне "Беларуская Капэла" распрацавала такую праграму з мэтай стварэння своеасаблівай хрэстаматыі нашай музычнай даўніны, а за адным разам і рэпертуарных зборнікаў па розных выканаўчых спецыяльнасцях.

Ці трэба казаць, наколькі важная і доўгачаканая для нас гэтая справа!

Вядома, што ажыццёўлены разам з фірмай "Поліфакт" праект "Музыка сям'і Ельскіх" пераканаў рупліўцаў "Беларускай Капэлы" ў слушнасці іх выдавецкіх намераў. Тыя з любоўю і густоўна зробленыя музычныя кнігі (хочацца назваць іх менавіта гэтак) сталіся не толькі аб'ектам палявання для дасведчаных бібліятаманаў, але і добрым грунтам у навучанні будучых піяністаў ды скрыпачоў.

Тое ж усё сёння адбываецца і з нотамі С. Манюшкі. Як заўважыў В. Скорабагатаў, яны актыўна ўвайшлі ў навучальны працэс Беларускай акадэміі музыкі, прафесары кафедры спеваў удзячныя за сапраўды годны, непаўторны, нацыянальна адметны набытак айчынных вакалістаў. І... "просяць яшчэ".

Працяг будзе!

Акрыленыя падтрымкай Міністэрства культуры, у спадзяванні на далейшае супрацоўніцтва з друкарняй "Тэксарт" і ўзаемаразуменне з тымі, хто можа дапамагчы ў карпатлівай і "фінансаёмістай" справе выдання нот, чыннікі праграмы "Беларускі гістарычны нотазбор" перапынку ў сваёй працы не робяць. Балазе, багатая музычная спадчына зямлі нашай гэтаму спрыяе. Найпершая ўвага скіраваная на такія выбітныя постаці, як Ян Голанд, Восіп Казлоўскі, Антоні Генрык Радзівіл, Міхал Клеафас Агінскі, Напалеон Орда. Падрыхтоўкай вакальнай літаратуры займаецца Ганна Каржанеўская (ёю распрацавана 35 зборнікаў — вось гэта перспектыва!). Лютневай ды гітарнай — Валеры Жывалеўскі. Харавой — Кірыла Насаеў.

Зразумела, што амаль да пачатку XX стагоддзя аўтарскіх твораў з беларускімі тэкстамі было няшмат, кампазітары пісалі на кананічную латынь, скарыстоўвалі вершы французскія, польскія, нямецкія і г.д. Таму праграма "Беларускай Капэлы" прадугледжвае і сталую перакладчыцкую працу. Кірунак мастацкага перакладу ўзначаліў Уладзімір Мархель, далучаны да навукова-асветніцкай і канцэртнай дзейнасці "БК" з самага яе пачатку. Ён, дарэчы, прыцягнуў увагу гасцей прэзентацыі "Песень..." сваім дасціпным выступленнем:

— Спачатку было слова, і слова было ў Чачота, і гэтае слова ён узяў у беларускага народа, пераклаў на польскую мову, каб выхоўвалі панічоў і паненак на ўзорах высокай маральнасці, бо беларускі фальклор — сама маральнасць... Гісторыя зацягнулася, вяртанне адбываецца толькі сёння, але ж мара Чачота здзейснілася: зроблены зваротны пераклад, творы, узятыя ў беларускага народа і пакладзеныя на музыку, у абноўленым стане вяртаюцца да свайго першаспаральніка...

Нямала гаварылася ў той вечар пра агульны прадмет любові Чачота ды Манюшкі — беларускі мелас. Пра "генетычную памяць" беларускай народнай асновы іхніх песень, якія нясуць у сабе менталітэт і маральнасць нашых продкаў. Пра асаблівасці саміх песень, тонка і таленавіта "пераведзеных з фальклорнага стану ў акадэмічны". Шчаслівыя ўладальнікі нот захоплена чыталі напісаны глыбока, вобразна і лаканічна ўступны артыкул да зборніка.

Быў і цудоўны, шчыры канцэрт. Спявалі вядучыя беларускія вакалісты Алена Бундзелева, Леся Лют, Рыгор Палішчук, Віктар Скорабагатаў. З імі разам ствапала маляўнічыя, размаітыя — жартоўныя, лірычныя, жанравыя і трагедыйныя вобразы свет канцэртмайстар Ганна Каржанеўская, нястомны "чалавек-аркестр", таленавітая рэдактарка музычных тэкстаў зборніка.

Ці можна пераказаць, з якім захапленнем, хваляваннем, удзячнасцю ўспрымалі й прымалі праграму госці вечарыны (сярод іх, дарэчы, былі шаноўныя польскія ды летувіскія дыпламаты)!

Над "Казаком" ці не плакалі. З "Мядзведзіка", "Кума і кумы" ледзь не рагаталі. Усміхаліся "Выбару". Дазвалялі сэрцу біцца часцей — у лад імкліваму руху "Праснічкі". Трывожна ўслухоўваліся ў дыялог маці ды сына з "Ад'езду на вайну". Дзівіліся на чысцюткія каларатуры "Салоўкі"... Артысты "агучылі" ў той вечар больш чым палову зборніка!

Рыхтуючы першую кніжачку сваіх "Хатніх спеўнікаў", Станіслаў Манюшка пісаў у "Tygodniku Petersburskim" так: "...а тое, што ў ёй нацыянальнае, краёвае, мясцовае, што рэха нашых дзіцячых успамінаў, ніколі насельнікам зямлі, на якой (гэтыя песні) нарадзіліся і ўзраслі, падабацца не перастане".

Напраўду — так!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. МАЦЮША*



*Віктар Скорабагатаў*



*Алена Бундзелева*



*Рыгор Палішчук*

ТЭАТР

# Жыццёва неабходны выбух

***Драма ў нашы дні, здаецца, застыла ў сваім развіцці. У ёй амаль немагчыма адкрыць штосьці новае. Мо нават і няма патрэбы чакаць адкрыццяў. У беларускім тэатры нечаканасцяў наўрад ці прычакаць. Сумна, заплаціўшы за білет і асталяваўшыся ў зале, загадзя ведаць, што ты ўбачыш, смяяцца жартам, якія быццам некалі ўжо чуў.***



Няма гарантыі якасці. Няма ўпэўненасці, што ўбачыш прафесійна пастаўлены і сыграны цікавы спектакль, што не будзеш пазіраць на гадзіннік і лічыць хвіліны да фіналу. Па сутнасці, захапляючай, нечаканай і ў той самы час прафесійнай рэжысуры ў Мінску амаль няма. Ёсць сярэдні ўзровень, які дазваляе ставіць адпаведна сярэднія спектаклі. На гэтым фоне нават увогуле артадаксальны "Рычард" "Вольнай сцэны" глядзіцца з цікавасцю за кошт напружанага дзеяння, немудрагелістага сюжэта і цікавай ігры выканаўцы галоўнай ролі Алега Гарбуза.

Дык вось, калі нядаўна мая мама спытала, што б ёй такога цікавага і незвычайнага пагледзець у мінскіх тэатрах, мне не было чаго ёй параіць, акрамя... спектакляў Мінскага тэатра драмы "Дзе-я?"

Цяжка сказаць, ці адкрыў Мікалай Трухан разам са сваімі аднадумцамі штосьці новае ў сучасным мастацтве, але нічога падобнага ў Мінску не было і няма. Гэта дакладна.

У тэатра "Дзе-я?" невялікі рэпертуар — усяго пяць спектакляў, рэжысёр і акцёры падоўгу працуюць над кожным, бясконца іх перарабляюць, шукаюць новыя, больш дакладныя сродкі ўвасаблення творчай думкі. Гэта тэатр кіраўніка, дзе ўсё падпарадкавана яго волі — Мікалая Трухана (акцёры любоўна завуць яго "бацька") і нават спектаклі Віталя Баркоўскага, які паставіў у "Дзе-я?" камедыі "Жаніцьба" і "Чорт і баба", падвяргаюцца яго апрацоўцы. Гэтым жа абумоўлена адзіная мастацкая накіраванасць спектакляў "Дзе-я?" — пры зусім розных сродках увасаблення яны, у выніку, ствараюць (за выключэннем спектакляў В. Баркоўскага) адзін і той жа настрой — гнятлівы, тужлівы. Асноватворны жах быцця, паэзія смерці, веліч ганебнага ўвасобіліся ў гэтых спектаклях на ўсёй прыгажосці, якая палохае.

Узнікае адчуванне, што тэатр быццам застыў у сваім развіцці. Прытоку новых людзей амаль няма. Акцёры прыцерліся, прывыклі адзін да аднаго. Прадужаючы з году ў год займацца самапаўторам, які ўсё больш нагадвае самапародыю. Час ідзе, мяняюцца інтарэсы і тэмы, а "дзееўцы" тым самым жывуць у сваім маленькім свеце...

Вяршыняй творчай думкі М. Трухана з'яўляецца спектакль "Здань", над якім тэатр працаваў больш за год. Гэты спектакль пачынаецца як бытавая драма, няспешны аповед пра жыццё двух сем'яў, жыццё, поўнае расчараванняў і роспачы, якое пад канец трансфармуецца ў жудаснае містычнае дзеянне. Пакуты персанажаў, і без таго праўдзівыя, успрымаюцца яшчэ больш востра ад музыкі, цудоўна падабранай Галінай Вішнеўскай: у самыя напружаныя і трагічныя моманты гучаць жыццярадасныя і бесклапотныя творы, якія належаць пяру бессмяротнага Моцарта, а ў фінале выкарыстана апакаліпсічная музыка Шнітке.

Спектакль "Імжа" з-за даўнасці пастаноўкі зацёрся і страціў нейкую магію, характэрную для іншых спектакляў тэатра, другі — "Круці...", занадта кан'юнктурны, занадта арыентаваны на заходні тэатр і заходнюю свядомасць (нездарма гэты спектакль меў поспех на Эдынбургскім фестывалі "Fringe", дзе тэатр "Дзе-я?" быў летась і пазалетась). Гэты спектакль цікавы перш за ўсё для людзей, знаёмых з творамі Ф. Аляхновіча, па дзвюх кнігах якога ён быў пастаўлены, і прагрэсіўнай моладзі, якая можа зразумець спецыфічны гумар "Круці..." Шараговаму ж гледачу ён, па бальшыні, проста незразумелы менавіта з-за багацця занадта далікатных алегорый, а таксама па прычынах, указаных вышэй, і можа нават раздражняць занадта частымі і навязлівымі (часам не да месца) намёкамі на штосьці, вядомае стваральнікам спектакля і невядомае публіцы.

Агульны настрой і змест спектакля нагадваюць тон і змест выкрывальных артыкулаў таго часу, якія выкрываюць НКУС, ДПУ, Сталіна, Берыю, Леніна, увогуле, усю "подлую КПСС". Той жа злы гумар, тыя ж злосныя, здзеклівыя інтанацыі... Ды пра гэта цяпер ужо газеты не пішуць! Па адчуванні "Круці..." нагадвае "Майстра і Маргарыту" Дзяржаўнага тэатра лялек, але "Майстар..." быў пастаўлены даўно, а "Круці..." — спектакль новы. Верагодна, спачатку ён сапраўды задумваўся як нешта сур'ёзнае і страшнае, але ў выніку ўсё ператварылася ў фарс, і цяпер акцёры ў асноўным займаюцца тым, што спрабуюць рассмяшыць публіку. Гумар вельмі нагадвае жарты рабоў на адрас сваіх гаспадароў, калі тых няма паблізу. Нават цудоўная ігра акцёраў (асабліва хочацца адзначыць Д'ябла Тамары Міронавай і Мужыка (Аўтара) Ігара Нікалаева) не выратоўвае становішча: на імгненне захопішся якім-небудзь чарговым акцёрскім трукам і тут жа задумаешся — а дзеля чаго гэта? І, на жаль, часта разумееш, што не дзеля таго, а так, каб сумна не было.

Колькі разоў мне даводзілася назіраць такі малюнак — падчас спектакля частка гледачоў рагоча, а астатняя публіка не разумее — "Што тут смешнага?" Прынамсі, такі падзел залы характэрны для ўсіх спектакляў тэатра — далёка не ўсе разумеюць філасофска-інтэлектуальную накіраванасць "Дзе-я?". Што ж, Трухан і таварышы самі выбралі гэты шлях.

Цяпер, як стала вядома, М. Трухан задумаў новы спектакль і зноў паводле У. Караткевіча. Няўжо зноў усё пойдзе па старым коле праблем — "беларус", "мастак", "Радзіма", "космас", з варыяцыямі — "мастак на Радзіме", "беларусы ў Космасе", "Мастак і беларус" і г. д.?

Самы касавы спектакль тэатра — "Чорт і баба". Беспройгрышны варыянт! Ідэальнае для камедыі спалучэнне — тонкі гумар і глыбокі сэнс, а таксама цудоўная ігра акцёраў забяспечылі гэтай пастаноўцы поспех. Высокую ацэнку крытыкаў і гледачоў "Чорт і баба" атрымаў на Эдынбургскім фестывалі, хоць ішоў без перакладу, на роднай беларускай.

І, нарэшце, апошні твор — камедыя "Жаніцьба" паводле аднайменнай п'есы Гогаля. На рэпетыцыях рэжысёр В. Баркоўскі даў поўную свабоду акцёрам, а што атрымалася — вы можаце ўбачыць самі, паглядзеўшы гэты спектакль, бо тут маё пяро бяссільнае, паколькі "Жаніцьба" — гэта тэма для асобнага артыкула. Сцяўшыся ў захапленні перад гэтым цудам сатворчасці рэжысёра і акцёраў, мне застаецца толькі ўпасці на калені перад магутным і смелым талентам і велізарнай грамадзянскай мужнасцю чалавека, які паставіў гэты спектакль.



Застаецца толькі дадаць, што ў распараджэнні М. Трухана і В. Баркоўскага была цудоўная ў сваёй еднасці трупа: геніяльны майстар, нечаканая ў кожнай новай ролі Тамара Васільеўна Міронава, іранічны хуліган, нястрымны імправізатар Алег Радкевіч, Аляксандр Якаўлеў, які пакарае сваёй мужчынскай прыгажосцю і сілай, вынаходлівы і тонкі майстар Ігар Нікалаеў, гранічна шчыры Генадзь Гатоўчыц, па-жаноцку абаяльная Святлана Яцэвіч, інтэлектуальны герой Ігар Падлівальчаў, тонкі псіхолаг Галіна Чарнабаева, дзівосная са сваёй душэўнай цеплынёй і мяккасцю Таццяна Папова, таемная і прыгожая Любоў Сірына, адкрытая і, напэўна, з веданнем нейкага сакрэту душэўнай чысціні і цнатлівасці Аляксандра Сушко...



Бясконца цікавыя два сябры і аднадумцы М. Трухан і В. Баркоўскі, усё жыццё якіх — гэта бясконцы пошук, несупынны эксперымент, вялікі скачок у невядомае. Ім цяпер жыццёва неабходны... выбух якасці, паварот, прарыў, — ім, паўтараю. А вам жыць у Мінску і не бачыць іхніх спектакляў?!

**Яўген УВЯДЗЕНСКІ**

*На здымках: Тамара Міронава (Баба) у спектаклі "Чорт і баба"; Тамара Міронава (Марыя) і Ігар Нікалаеў (Сцяпан) у спектаклі "Здань"; сцэна на спектакля "Круці..."*

*Фота Аляксея* ***МАЦЮША***

**Ад рэдакцыі.** З асаблівымі пачуццямі друкуем допіс-роздум аднаго з нашых самых малодых чытачоў: Яўгену Увядзенскаму — семнаццаты год пайшоў. Самы час выбіраць дарогу — што ў жыцці, што ў мастацтве. Пільнасці назіранняў маладога чалавека можна падзівіцца (сапраўды, любая з'ява мае шмат адценняў ды па-рознаму прымаецца-ацэньваецца), а ягоная любоў да тэатральнага мастацтва вымагае павагі. Мяркуем, што ў падобных глядацкіх нататках з'явіцца працяг: слова за вамі, шаноўныя гледачы, чытачы "ЛіМа".

# Ёсць "Оскар"!

*(Праця. Пачатак на стар. 1)*

не спалохала: да ўсяго, што ўжо мелі, падрыхтавалі яшчэ "Херувімскую песню" Кшыштафа Пендэрэцкага, складаны, авангардыцкі па духу, твор.

Словам, паехалі... А там — там было ўсё вельмі строга. Журы прадстаўлялі два германцы, прафесары акадэмій музыкі, якія практыкуюць з некалькімі харамі, а таксама венгр і датчанін. Усе — з вялікім стажам працы.

І вось, калі я з імі пабачыўся, яны мне сказалі: "Маэстра, не хвалюйцеся, бо мы будзем увесь час камертон трымаць у руках". І сапраўды, калі мы выконвалі твор (я, натуральна, стаяў спіною да залы, а хор — тварам), чальцы журы, якое месцілася на балконе, ці не штохвілінна вымалі камертоны і правяралі танальнасць, прасочваючы па нотах. Маўляў, ага: тут мі мажор, тут зноў мі мажор, тут пайшла другая частка — у фа мажоры, і яны адразу цоп камертонам... Гэта крыху хвалявала нас. Але потым прызвычаіліся. Правяраць асабліва не было чаго, усё ў нас ішло гладка — а ўвогуле за кожнае паніжэнне ці павышэнне на паўтона выканаўцам здымалі балы.

Закончылася наша першае выступленне ў катэгорыі "А" — духоўнай музыкі. Я ўжо не стаў слухаць іншыя калектывы (іх удзельнічала ў конкурсе 20), пайшоў адпачываць. К ночы — стук у дзверы: студэнты пабудзілі, віншаваць прыйшлі. Паўшчуваў іх: да раніцы пачакаць не маглі? Не, карцела паведаміць: нам прысудзілі "залаты" дыплом, да якога яшчэ "прыкладаўся" кубак і канверт з грашовай прэміяй.

А назаўтра быў конкурс змяшаных хораў. Дарэчы, у праграме для кожнай катэгорыі быў абавязковы твор нямецкага аўтара: Брамса, Шуберта, Шутца... І самае галоўнае, гэтыя ноты не мелі ніякіх "падказак" для выканаўцаў: ні тэмпавых пазначэнняў, ні дынамічных адценняў. Кожны мастацкі кіраўнік рабіў усё гэта адпаведна свайму разуменню і густу. І так атрымалася, што мы "адгадалі" і тэмпы, і дынаміку. І, як ні дзіўна, мы нават немцаў "перагналі" ў выкананні гэтых твораў. Апроч як у катэгорыі "мужчынскі хор", дзе выконваўся твор Шуберта, музыка для іх крэўная.

У спаборніцтве змяшаных хораў мы таксама атрымалі "залаты" прыз і кубак. А паводле вынікаў конкурсу мужчынскіх хораў журы вырашыла падзяліць галоўную ўзнагароду паміж намі ды нямецкім калектывам. Нам далі "залаты" дыплом, а кубак ды фінансавы прыз — немцам.

У фінале конкурсу ўсе мусілі выконваць творы, якія не былі выкананыя ў трох названых катэгорыях: гэта было спаборніцтва за галоўны прыз — "Оскара". Ведаеце, я адчуў, што "Оскар" у нас ужо ў кішэні, бо тры "залатыя" граматы ніхто з удзельнікаў, апроч нас, не атрымаў: быў там жаночы хор, адзначаны "залатым" прызам, быў пераможца ў катэгорыі камерных хораў... І калі мы ўжо спявалі ў фінале, дык журы не ўтрымалася і пачало нам апладзіраваць, што ўвогуле-то не дазваляецца правіламі конкурсу. Але ж чальцы журы нават усталі і разам з публікай скандзіравалі просьбу: паўтарыць... Я зрабіў запытальны жэст у бок балкона — рукой з двума ўзнятымі пальцамі: ці можна паўтарыць? Можна. І зноў — авацыя. Працягваю ўжо тры пальцы, але "бісіраваць" больш не дазволілі.

Потым журы пайшло на сваю заключную нараду, а нас папрасілі проста паспяваць для публікі, якая засталася чакаць вынікаў конкурсу...

І вось — абвяшчэнне вынікаў. Першая абвестка была пра тое, што на конкурсе за "Оскара" лепшым быў хор з Мінска. І пачалося ўручэнне прызоў па катэгорыях. Назвалі бронзавых прызёраў, сярэбраных, залатых — выходжу, бяру "залатую" грамату, кубак, кладу на раяль. Наступная катэгорыя: бронзу атрымалі тыя, серабро — тыя, золата — Мінск: зноў выходжу, прымаю грамату, кубак, кладу на раяль. Па катэгорыі "мужчынскі хор" зноў прымаю "залатую" грамату, а кубак уручаецца нямецкаму дырыжору. Абвясцілі пераможцу фінальнага спаборніцтва — і зноў давялося выходзіць, прымаць "Оскара", слухаць віншаванні. Але... я ўсё адрасаваў студэнтам. Нават калі апладзіравалі падчас выступленняў, я не кланяўся, а паказваў рукой на хор, бо спявалі-то яны, я ж толькі, як гаворыцца, "махаў рукамі". Ім давялося пахвальвацца, я быў спакайнейшы.

У выніку мастацкі кіраўнік гэтага конкурсу паведаміла, што нас хочуць запрасіць на наступны год з камерцыйным турнэ па гарадах Заходняй Еўропы. Напэўна, гэта адбудзецца ў жніўні, калі студэнты вольныя. Ну, а сёлета хор Акадэміі музыкі плануе патрапіць на яшчэ два буйныя міжнародныя фестывалі: у Гайнаўку ды ў Магілёў, на "Магутны Божа".

**Занатавала С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Народны мастак у Светлагорску



**39 твораў народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Леаніда Шчамялёва прадстаўлены на выставе ў Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя". Гэта пейзажы, нацюрморты, партрэты... Некаторыя з іх напісаны ў 70-х гадах, некаторыя — сёлета. Але ўсе прасякнуты яркім, трапятлівым каларытам, напружанай энергіяй, так уласцівай гэтаму мастаку.**

**У Светлагорск прыехаў і сам Леанід Дзмітрыевіч разам з жонкай Святланай Мікалаеўнай, а яшчэ — старшыня праўлення Саюза мастакоў Беларусі Г. Буралкін і мастакі У. Зінкевіч і В. Сідарава. Яны гаварылі пра Л. Шчамялёва як пра аднаго з цудоўнейшых мастакоў не толькі Беларусі, нагадалі, што Леанід Дзмітрыевіч яшчэ ў 1993 годзе Кембрыджскім цэнтрам узнагароджаны медалём "За дасягненні ў XX стагоддзі", што многія творы яго захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі, у Траццякоўскай галерэі і іншых музеях свету. Слова ўдзячнасці сказаў старшыня Светлагорскага гарадскога выканаўчага камітэта А. Якабсон.**

**Светлагорцы падоўгу затрымліваліся ля пейзажных карцін "Вечар", "Прагулка", "Лагойшчына", У канцы лета", "Пахмурны дзень". Іх вабілі ўвасабленнем аддаленых гістарычных падзей тэматычныя карціны "Развітанне. 1919 г.", "Люты 1942 г.", "Адыходзячае сонца", "Ветразь". Святлелі задуменна твары гледачоў перад карцінамі "Вясковы храм", "Мірская капліца" і інш.**

**— Выстава ў Светлагорску — гэта толькі маленькая частка таго, што мною зроблена. Але яна дае пэўнае ўяўленне аб маёй творчасці, — сказаў аўтару гэтых радкоў Леанід Дзмітрыевіч. — Мяне глыбока ўзрушыла тое, як светлагорцы аднесліся да гэтай выставы. Я пачуў не толькі прыемныя словы, але і прыемныя пытанні, якія сведчаць, што ў гэтым горадзе шмат сапраўдных прыхільнікаў выяўленчага мастацтва.**

**Знаёмства з выставай працягнецца да сярэдзіны мая.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На адкрыцці выставы. На першым плане (злева направа) Л. Шчамялёў, Г. Буралкін, У. Зінкевіч.*

*Фота Д. ХАМІЦЭВІЧА*

## Мазырская дэкада

**Традыцыйная дэкада "Тэатр — моладзі і дзецям" была арганізавана Мазырскім драматычным тэатрам імя І. Мележа і аддзелам культуры гарвыканкама.**

**Больш як паўтары тысячы гледачоў наведалі ў гэтыя дні спектаклі тэатра. Выхаванцы дзіцячых садкоў і малодшыя школьнікі пільнавалі "Беласнежку і сем гномаў" Л. Усцінава. Для вучняў старэйшых класаў, навучэнцаў ПТВ, тэхнікумаў і студэнтаў Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Крупскай былі паказаны разнапланавыя спектаклі, якія вызначаюцца філасофскім і духоўным зместам — "Трышчан ды Ізота" С. Кавалёва паводле старажытнабеларускага рыцарскага рамана і меладрама У. Гібсана "Утаймаванне тырана" ("Стваральніца цудаў").**

**Пастаноўку ўсіх спектакляў ажыццявіў мастацкі кіраўнік тэатра Валеры Ласоўскі.**

**Ю. ХАЕТ,**

**загадчык літаратурнай часткі тэатра**

ЗГАДКІ

Масей СЯДНЁЎ

# Сустрэча, якой я баяўся

Захацелася зноў думкай вярнуцца ў мой Цветаград, у мае універсітэцкія часы, можа, найлепшыя ў маім жыцці. У гэтым Цветаградзе, фактычна ва універсітэце Індыяна, што месціцца ў невялікім гарадку Блумінгтон (ЗША), я працаваў выкладчыкам рускай мовы мала не сем год. Мае студэнты прыгожую назву "Блумінгтон" пераклалі як Цветаград. Так, гарадок Блумінгтон назаўсёды-застаўся для мяне Цветаградам. Мае дзевяць год цяжкой працы на фабрыцы былі ўжо ў мінулым і толькі зрэдку трывожылі мяне ў снах балючым прывідам. Быў я паглынуты новай для мяне працай, універсітэцкай атмасферай, сваёй вучобай (паралельна са сваімі выкладамі я вучыўся і сам, каб здабыць дыплом), быў заваражаны лекцыямі не толькі сваіх, універсітэцкіх выкладчыкаў,а й лекцыямі прыезджых вучоных, усё гэта спараджала адчуванне духоўнага росту, пераходу са стану — у выніку зняволення, вайны і ўсякіх іншых нягодаў — здзічэласці ў стан усведамлення сябе як асобы.

Як і ўсюды, дзе б я ні быў, пайшлі і мае цветаградскія вершы. Узнікалі яны маім старым (турэмным) спосабам — у "галаве", на хаду. Трэба адзначыць, што ваколіцы універсітэта былі заўсёды агучаныя музыкай, што йшла-чулася з кансерваторыі (універсітэт славіўся гэтай сваёй музычнай школай), і я любіў у вольны ад працы час вандраваць у гэтых ваколіцах. Тут і нараджаліся мае вершы, быццам падказаныя самой музыкай. Прынамсі, музыка вызначала часам рытм майго верша. Амаль што заўсёды я вяртаўся дахаты з гатовым вершам. Здавалася, я й хадзіў у тыя амузычаныя універсітэцкія ваколіцы толькі для таго, каб "здабыць" вершы. Гэтак і нараджаўся мой цветаградскі цыкл. Назаву з іх такія, як "Відзенне Бацькаўшчыны", "Жывы ўспамін", "Суродзічы мае! Ды голас мой ці чуеце вы, шчыры і адданы?" і іншыя. Гэта быў час майго найбольш вострага адчування Бацькаўшчыны:

*Як толькі песняю сваёй зайдуся —*
*і Бацькаўшчына ў сэрца хлыне мне,*
*і лёгка робіцца ў начной задусе,*
*і быццам не наяве я, а ў сне.*

Адным словам, маё цветаградскае жыццё адраджала мяне, вяртала мяне да самога сябе.

Але я ладна адхіліўся ад вызначанай тэмы — ад сустрэчы, якой я баяўся. Падыду да яе.

У часы гэтак званага культурнага абмену паміж ЗША і Савецкім Саюзам адчынілася нейкая рэальная магчымасць таго абмену. Для прыкладу, магчымасць абмену студэнтамі, навуковымі выданнямі, магчымасць пазнаёміцца з тэатральным мастацтвам Савецкага Саюза, балетам, кінафільмамі і г.д. (Са сваімі студэнтамі я прагледзеў дзесяткі савецкіх фільмаў, пераважна з часоў Айчыннай вайны.) Адкрылася таксама магчымасць асабістых кантактаў з культурнымі дзеячамі Саюза, што прыязджалі ў ЗША ў рамках усё таго ж культурнага абмену. Гэтак і трапіла ва універсітэт група савецкіх рэдактараў, што падарожнічала па ЗША. (Яна была запрошана загадчыкам славянскага факультэта з мэтай даць магчымасць студэнтам паслухаць рускамоўных гасцей). Быў вызначаны час і месца іхняга выступлення ва універсітэце. Я вырашыў пайсці на гэтую сустрэчу. Уваходжу ў будынак, дзе ўжо клуміліся студэнты ў чаканні прыходу гасцей, і заўважаю ў калідоры сваю знаёмую, таксама выкладчыцу, у гутарцы з нейкім панам, вітаюся з ёй і йду далей, да ўваходу ў аўдыторыю, дзе мае адбыцца сустрэча. Але мая знаёмая, украінка, крычыць мне ўслед: "Пане Сяднёў, на хвілiначку!" Вярнуўшыся, падыходжу, а яна, звяртаючыся да свайго субяседніка, знаёміць мяне з ім: "Збанацкі — украінскі пісьменнік". Госць запытаўся, каго я ведаю з беларускіх пісьменнікаў. Я назваў некалькі імён. "А Рыгора Няхая вы ведаеце? Я партызаніў з ім, беларускім паэтам, на Украіне". І не было канца ягонаму аповеду. Але ж гэта быў чалавек **адтуль**, і я паспяшаўся пакінуць яго, у збянтэжанасці нат не развітаўшыся з ім. Аўдыторыя была паўнюткай, чакала гасцей. Я абраў сабе месца ў самым апошнім радзе аўдыторыі-амфітэатра. І от уваходзяць госці на чале з загадчыкам славянскага факультэта, займаюць месцы ў прэзідыуме. Сярод іх і "мой" Збанацкі. Адразу знайшоў мяне вачыма на гарышчы. Загадчык славянскай кафедры прадстаўляе гасцей, называе прозвішча Бондарава, мне ўжо знаёмага па ягоных творах "Апошнія залпы" і "Тишина". Прозвішчаў іншых гасцей (іх было пяць чалавек), на жаль, я ўжо не памятаю. Загадчык кафедры дае слова гасцям, студэнты слухаюць іх у напружанасці і, відаць, не ўсё, далёка не ўсё даходзіць да іх. Збанацкі з прэзідыума — я ў яго навідавоку — раз-пораз кідае свой позірк на мяне, вастрынёй свайго зроку быццам страляе ў мяне на гарышчы, а то сумна глядзіць на мяне, вывучае, і невядома было, ці ён спачувае мне, ці я ў яго выклікаю якія іншыя пачуцці. Тымчасам госці, за выключэннем Збанацкага, ужо выступілі, вычарпаліся і пытанні студэнтаў, і загадчык славянскай кафедры запрасіў гасцей і ўсіх прысутных на каву "для собеседования". На "собеседование" я не пайшоў, я ўхіляюся ад кантактаў з людзьмі **адтуль**. З якойсьці прычыны незадаволены сабою, я пакінуў месца сустрэчы з савецкімі рэдактарамі, уласна так і не сустрэўшыся з імі. Пасля іх яшчэ доўга віднеліся на стэндах дзве кніжкі — "Цішыня" Бондарава і ў перакладзе на рускую мову кніжка Збанацкага.

Не ведаю, колькі прайшло часу ад наведвання універсітэта Індыяна савецкімі рэдактарамі, калі мне трапіла ў рукі газета "За вяртанне", што выдавалася таварыствам "Радзіма". У артыкуле "Хлопцы, з якімі ён рос", змешчаным у газеце, аўтар прыгадваў сваю гутарку са Збанацкім, што прыязджаў на з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. У гэтай гутарцы, зазначае аўтар артыкула, Збанацкі і расказаў яму пра сваю сустрэчу з "беларускім паэтам" ва ўніверсітэце Індыяна, прычым у артыкуле не згадваецца маё прозвішча, аўтар абмяжоўваецца толькі кароткай заўвагай у дужках — "не будзем называць ягонага прозвішча". Загаловак жа "Хлопцы, з якімі ён рос" раскрываўся гэтак: "хлопцы" — гэта мае былыя сябры, з якімі я вучыўся, пачынаў пісаць, тыя "хлопцы" ўжо цяпер — выдатныя пісьменнікі, прызнаныя народам, а той, хто рос з гэтымі "хлопцамі" (зноў жа, прозвішча маё не прыгадваецца) змарнаваў свой талент і асудзіў сябе на бясплоднае бадзянне.

Як і кожная рэч, мусіць жа і мой артыкул мець нейкае завяршэнне. 1990 год. Падчас маіх першых адведзінаў Бацькаўшчыны і знаходжання ў Мінску Рыгор Няхай запрашае мяне ў госці. Ідзём да яго з Васілём Хомчанкам. Нас сустракае гаспадар і мілая гаспадыня. За сталом пачалася нязмушаная гаворка. Рыгор нат не браў на ўвагу, што я "амерыканец", абыходзіўся са мною, як з даўнім знаёмым, з якім ніколі не разлучаўся, не цікавіўся, як я жыву ў той Амерыцы. На падпітку ўжо пачаў апавядаць пра сваю партызанку на Украіне, а мілая гаспадыня хвалявалася, хацела пагутарыць са мною, падзяліцца сваімі распрацоўкамі ў ангельскай мове для студэнтаў, а Рыгора было не стрымаць. Ён гаварыў пра свае сустрэчы з украінскімі пісьменнікамі, асабліва з Максімам Рыльскім. Я не ўцярпеў і пахваліўся сваёй сустрэчай са Збанацкім. Рыгор загарэўся яшчэ больш, гаварыў і гаварыў пра свой са Збанацкім "рэзістанс", пра сваю дзейнасць у падполлі на акупанавых немцамі тэрыторыях і, спыніўшыся на секунду, выпаліў: "Збанацкі не **такі**, ён свойскі чалавек, у цябе атрымалася б з ім добрая гутарка, ты дарэмна асцерагаўся яго. Нельга так, Масей".

*1997, Глен Коў, ЗША*

МЕРКАВАННЕ

# "Рэвізоры" над кнігай

*Я знаю іх... Я ім калісьці верыў...*
*Я іх балота славіць пачынаў,*
*Пакуль мне ў лепшы свет*
*Не адчынілі дзверы,*
*Пакуль іх дум,*
*Іх пачуцця не знаў...*

Валерый Маракоў

У свой час, працуючы ў Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання, я рыхтаваў пра яго вялікую перадачу. Пазнаёміўся са старонкамі жыцця і творчасці Валерыя Маракова. Аднаго з тых паслярэвалюцыйных беларускіх паэтаў, пра талент якога з цягам часу маглі даведацца далёка за межамі нашай зямлі. Як успамінаў у нас у рэдакцыі Павел Пруднікаў, гэта быў адзін з самых яркіх таленавітых творцаў. Пры любой аўдыторыі адразу мог вершам імправізаваць. Дасціпна і трапна. Яго, як і большасць нашай нацыянальнай інтэлігенцыі, будаўнікі "светлай" будучыні знішчылі. Як "ворага народа". Каб не перашкаджаў "будаваць камунізм". І лёс гэтага чалавека, як і ўсёй яго блізкай радні, быў вельмі трагічным. Паэта рэпрэсавалі бальшавікі, а фашысты расстралялі яго брата — як брата паэта-камуніста. Маці не вытрывала цяжкіх нервовых стрэсаў — ад гора няшчасная жанчына звар'яцела.

Дык вось, чытаючы вершы В. Маракова розных гадоў, я быў, мякка кажучы, здзіўлены: некаторыя з іх, перавыдадзеныя пасля смерці паэта, не адпавядаюць арыгіналам. Валерый Маракоў пісаў і выказваўся па-свойму, укладваючы ў радкі адзін сэнс, а рука нейкага рэдактара (часцей па загадзе чыноўніка ў высокім крэсле) гэты сэнс мяняла! "Падрэтушоўваліся" многія творы пісьменнікаў 20-30-ых гадоў — Паўлюка Труса і Уладзіміра Хадыкі, Барыса Мікуліча і Рыгора Мурашкі, Сымона Баранавых і Янкі Нёманскага... В. Маракоў — не выключэнне. Вось яго верш

***І гэта затым, каб гарэла каханне,***
***Сяброўства на ружы схіляла чало,***
***<u>І ты не смяяўся над ўсім, што было</u>***
***<u>За тое, што ты — чалавек,</u>***
***<u>а не званне.</u>***
***Любоў і паэзія***
***йдуць праз вякі,***
***<u>Праз краты улад</u>***
***<u>і кароны цароў.</u>***
***Праз хітрыкі ворага, здраду сяброў***
***і дораць зямлі залатыя вянкі.***

Гэтак у кнізе "Права на зброю" 1933 года выдання. А ў кнізе "Лірыка", якая выйшла ў Дзяржвыдавецтве БССР у 1959 годзе, чытаем (там і тут падкрэслена мною):

***І гэта за тым, каб гарэла каханне,***
***Сяброўства на ружы схіляла чало,***
***<u>І ты не смяяўся з таго, што было.</u>***
***<u>Змагар-чалавек.</u>***
***<u>Ты навек у пашане!</u>***
***Любоў і паэзія йдуць праз вякі,***
***<u>Мінаючы краты й кароны цароў...</u>***

Яшчэ раз перачытайце радкі першага варыянта і другога, і заўважце, як шмат можна памяняць у творы, нават цэлы сэнс. Пры такой апантанасці твор можна так "адрэдагаваць", што сам аўтар сябе не пазнае. Хто там будзе сядзець у архівах і бібліятэках і займацца нуднай справай, звяраючы сапраўдны арыгінал з тым экземплярам, што ўладнікі разам з пакорнымі выдаўцамі выпусцілі ў свет пазней? Вось у Валерыя Маракова толькі ў гэтым вершы так шмат схавалі сапраўднага сэнсу! Заўважце:

***Любоў і паэзія***
***йдуць праз вякі,***
***Праз краты улад***
***і кароны цароў...***

Так пісаў аўтар у 1933 годзе.

***Любоў і паэзія йдуць праз вякі,***
***Мінаючы краты й кароны цароў...***

Такім тэкст "стаў" пазней. Калі жывы аўтар з боллю падкрэсліваў, што ўсе ўладнікі, няхай гэтай будуць капіталісты або камуністы — не мае значэння, выпрабоўваюць любоў і паэзію праз свае краты, то вось у "адпрацаваным" варыянце з'явілася "мінаючы краты й кароны цароў"... Адчулі, як змянілі ўвесь трагізм сітуацыі? Бо калі паэзія і любоў могуць спакойна абмінуць інквізітараў-уладароў, то чаго тут і залівацца горкімі слязьмі? Менавіта ў нашай краіне гэтыя чалавечыя пачуцці заўсёды могуць абмінуць усе краты. І не трэба вохкаць, нікога і нічога баяцца. Вакол дэмакратыя і поўная свабода... Каго? Ну, лічыце разам: паэзіі, любові... Называйце ўсе хорам: разам з імі — слова, дэмакратыі, асобы... Што там яшчэ засталося? Не бойцеся, мовіце ў адзін голас! Калі забыліся — раскрыйце ўсе праекты нашых канстытуцый і зачытвайце адтуль, а ўсе астатнія чытанню дружна ап-ла-дзі-руй-це!

***І ты не смяяўся над усім, што было***
***за тое, што ты — чалавек,***
***а не званне..***

Так мысліў Валерый Маракоў у 1933 годзе.

***І ты не смяяўся з таго, што было.***
***Змагар-чалавек,***
***ты навек у пашане!***

Так раптам пачаў мысліць "двайнік" слаўнага паэта ў 1959 годзе. Тут ужо паэзія рэпрэсіраванага творцы пачала ўслаўляць новы лад жыцця. У 50-ых гадах улады зашанавалі "змагара-чалавека", вось такая нота і з'явілася ў вершах Валерыя Маракова.

З цягам часу можна падправіць шмат паэтаў, літаратараў, асабліва малавядомых. Самае вострае і рэзкае ў іх выказваннях зарэтушаваць, прыбраць, нешта перапісаць на свой капыл, як гэта мы прыгадалі. Літаратурныя "рэвізіі" адбыліся, напэўна, з большасцю твораў беларускіх пісьменнікаў далёкіх гадоў.

Варта было б нашаму Інстытуту літаратуры Акадэміі навук Беларусі разам з Саюзам пісьменнікаў стварыць спецыяльную камісію і праверыць, наколькі адпавядаюць мове арыгінала творы пісьменнікаў 20-30-ых гадоў. Такія маніпуляцыі "рэпрэсіі" над творамі неабходна абавязкова выявіць. Каб аднавіць Праўду і Справядлівасць.

**Пятро ВЫСПА**

ПЕРАДРУК

***Гэты артыкул напісаны С. Яновічам па просьбе варшаўскага часопіса “Новэ Контрасты” і апублікаваны ў першым нумары яго за сёлетні год. Для нашых чытачоў уяўляе цікавасць не толькі сам артыкул, прысвечаны грамадска-палітычнай сітуацыі ў Беларусі, але і прыпіска “Ад рэдакцыі”, у якой згадваецца леташні юбілей нашага беластоцкага калегі, гаворыцца пра яго сённяшняе самаадчуванне, на якое не лепшым чынам уплывае тая ж сітуацыя ў Беларусі і вакол яе.***

Сакрат ЯНОВІЧ

# Апошняя прамая да катастрофы

Узрушаны частковым здзяйсненнем маіх чорных прароцтваў — таксама на старонках “Новых Кантрастаў”, — што насычаная савецкасцю Беларусь не будзе бачыць свету па-за Масквою! Думалася, што да гэтага ўсё ж не дойдзе па прычыне відавочнай тупіковасці такой тэндэнцыі. Не кажучы ўжо пра тое, што казна расійскай дзяржавы спустошана, бо даўно мінавалі тыя часы, калі тэрытарыяльныя анексіі маглі папаўняць рахунак экстэнсіўнай гаспадаркі, у якой падваенне прадукцыі вымагала адно падваення рабочых рук. Гэта не азначае, што Расіі Беларусь непатрэбна ў ролі стратэгічнага цэнтра Еўропы і заадно ў ролі калідора для беспраблемнага, уласна бясплатнага правозу тавараў і сыравіны ў кірунку Еўрапейскага Саюза і наадварот. Само сабою вынікае думка, што Рэспубліка Беларусь траціць на тым мільярды долараў, і гэта банальная праўда. Адначасова назіральнікаў тутэйшага эканамічнага жыцця бянтэжаць скаргі расійскіх аналітыкаў, што нібыта ў выніку ліквідацыі мытных бар’ераў паміж дзяржавамі беларускі бок адкрыта паразітуе на патэнцыяле **старэйшага брата**. За час існавання такога становішча яны ацэньваюць страты амаль у восем трыльёнаў расійскіх рублёў (акурат такія грошы патрэбны на рэфармаванне арміі альбо — трошкі меней — на адбудову Чачні).

Паўстае досыць абгрунтаванае меркаванне, што прэзідэнт Лукашэнка ўсё ж не з’яўляецца марыянеткай Масквы. Як бы хочучы даказаць гэта свету, ён аднойчы адкрыта прынізіў прэм’ера Чарнамырдзіна, назаўтра ж ператварыўшы ў звычайны лісток паперы заключаную пад яго куратарствам дамову з беларускім парламентам напярэдадні славутага лістападаўскага рэферэндуму. Гэта закранула велікаросаў за жывое! На пампезную ўрачыстасць падпісання Лукашэнкам новай канстытуцыі прыбыла з Крамля дэлегацыя нізкага рангу, хаця мог бы паявіцца прынамсі Жырыноўскі.

Адкуль жа столькі самаўпэўненасці ў гэтага **калгаснага Банапарта**? Няма ў гэтым аніякай загадкі ці нейкіх таемных закулісных сіл. Як і належыць самароднаму папулісту, Лукашэнка вядзе гульню просценькую, а народныя мітынгі з яго ўдзелам нагадваюць тэатр аднаго акцёра перад велізарнай аўдыторыяй; яны не вымагаюць дапаможных выступленняў прадстаўнікоў рабочага класа, працоўнай інтэлігенцыі, розных перадавых даярак і г. д. Малаці сам гадзінамі, як калісьці Кастра ў Гаване! Заўсёды па-покераўску **бяры банк**, не лічачыся з партнёрамі! На адстаўку прэм’ера свайго кішэннага ўрада доктара эканамічных навук Чыгіра адазваўся: **фэ, таксама мне герой: на такую пасаду чакае плойма ахвочых...** Міністраў зневажае дэманстратыўна, і да такой ступені, што сёй-той не вытрымлівае псіхічна і тут жа падае ў добраахвотную адстаўку (прыклад — намеснік міністра замежных спраў).

У чым жа тады заключаецца ягоная сіла? Несумненна ж не ў камуністычнай партыі, хоць гэта і дзіўна, і тым болей не ў беларускім нацыяналізме, які ледзьве дыхае пад ціскам русіфікацыі. Сваю галоўную стаўку ён робіць на незлічоны натоўп **савецкіх людзей**, і не толькі ў Беларусі, але і па-за ёю. Гэтая сляпая маса да рэшты збяднелага народа, быццё якога сёння ніжэй біялагічнага мінімуму, і які чакае цуда збавення з юдолі слёз. Яны вераць салодкамоўнаму харызматыку, бо нічога іншага гэтым няшчасным не дадзена! Лукашэнка менавіта імі прыведзены да адзінаўладдзя, узняты імі на вяршыню своеасаблівай Аліўкавай гары, каб насыціць адтуль люд боханамі хлеба і кашамі рыбы... Сама сабою напрошваецца гэтая біблейская аналогія.

Ён не на жарты трывожыць Крэмль. Сярпаста-малаткасты Зюганаў аказваецца праціўнікам цывілізаванага спынення па-пугачоўску стыхійнага Лукашэнкі, якому нао гул не ўласцівы хоць які-небудзь рэалізм ці думка аб светлай будучыні, акрамя як аб адной уладзе. Пакуль што — у Беларусі, а далей будзе відаць. Гэта красамоўна тлумачыць незразумелае ў нас і дзе заўгодна ягонае неадольнае жаданне зліць Рэспубліку Беларусь з Расійскай Федэрацыяй. І турбуецца ён аб гэтым так апантана, быццам не разумее, што нават чырвона-карычневыя лідэры Дзяржаўнай Думы, што апладзіруюць яму, не гараць жаданнем пасадзіць яго на пасляельцынскі трон. Двухбаковае Аб’яднанне Суверэнных Дзяржаў станецца выра̀дкам Садружнасці Незалежных Дзяржаў, самым найлепшым спосабам на ўтрыманне ля свайго боку Беларусі пасля страты кантролю над Украінай і канчатковага адпаду надбалтыйскіх дзяржавак. Лукашэнку будуць адначасова трымаць на дыстанцыі ад усерасійскіх трыбун, пры дапамозе якіх ён па звычцы паспрабаваў бы паўтарыць, гэтым разам з гіганцкім размахам ажно да Уладзівастока, сваю перамогу ў Беларусі. Яго б на руках насілі электарат Зюганава і Лебедзя і досыць вялікая частка тых, што галасуюць за Ельцына. У гэтым ніхто з тых, што ўмеюць думаць, не сумняваюцца, толькі ставяць пытанне: што адбылося б пасля гэтага?

Ад Лукашэнкі нервова ўздрыгвае Еўропа, але панікуе таксама і Расія, уплывовыя газеты і часопісы, папулярныя тэлевізійныя і радыёпраграмы. Рэагуе ён на тое перыядычнымі забаронамі распаўсюджваць тыя ці іншыя выданні, якія зарэгістраваны і масава прадаюцца на тэрыторыі рэспублікі, спыненнем трансляцыі. Большасць жа з іх трымае на кароткім павадку. Чарговы з шэрагу дыпламатычных пратэстаў быў пасланы ў Маскву, калі каментатар “Время” з Грамадскага Расійскага Тэлебачання карыстаўся фрагментам дадзенага для нямецкага часопіса “Гандэльблатт” інтэрв’ю Лукашэнкі, у якім ён пахвальна выказаўся пра... **Гітлера** (!) як пра пасляверсальскага дзяржаўнага мужа III Рэйха. Пры гэтым яго выказванне было праілюстравана кадрамі фільма пра асвенцімскі канцлагер.

І тая нота засталася без сур’ёзнага адказу, а тыднем пазней той самы кавалак інтэрв’ю скарыстала другая папулярная вячэрняя праграма, а менавіта “Взгляд”. Вайна нерваў нарастала. На парадку дня стала наданне злёгку іранічнага тэмбру голасу маскоўскіх дыктараў пры вымаўленні імі прозвішча Лукашэнкі, як быццам гаворка ішла пра нейкага другараднага туземнага царка. Гаворка тут не толькі аб тым, каб спала заслона з вачэй беларускіх выбаршчыкаў; хутчэй — аб стварэнні адпуджвальнага стэрэатыпу гэтай дынамічнай постаці сярод масавага расійскага тэлегледача.

Чорт з табой, Беларусь: хочацца памучыцца, дык калі ласка! Урэшце невялікая гэта дзяржава, не падскочыць, застанецца ізаляванай ад рэшты свету і ахопленай гаспадарчым крызісам. Адзіная пагроза, якая патыхае ад яе, мае ў аснове палітычны характар: **апошняя рэспубліка савецкіх людзей**. Вандэя саветызму. Няцяжка прадбачыць далейшыя хады на шахматнай дошцы разыгрываемай партыі — Ельцыну ўсё ж лёгка даць Лукашэнку мат; ён слабы праціўнік у кабінетных варунках, без шуму-сумятні шматтысячных натоўпаў на гарадскіх плошчах. У рэшце рэшт ён аматар у палітыцы; Барыс Мікалаевіч пераро̀с яго на некалькі класаў, на цэлае неба. З матам, значыць, ён пачакае да моманту немінучай кампраметацыі свайго саперніка на спадкаемства СССР, каб нарэшце не даць яму шанцаў таксама і на сыход у арэоле пераможанага злою сілаю вялікага народнага заступніка. Няхай сабе параве, быццам леў у абмежаванай прасторы клеткі. Уласны народ закідае яго каменнем, даведзены да роспачы ў перспектыве бяздоннай галечай, ужо ў бліжэйшы час непараўнанай з расійскай на соннай правінцыі — ад Арла да Сібіры. Гэта цудоўна знейтралізуе ў Расіі шматмільённых прыхільнікаў **апошняй рэспублікі савецкіх людзей.** Такое самавыра̀шэнне беларускага пытання, без сумнення, досыць пажаданае для Крамля.

Значыць, дастаткова не пускаць Лукашэнку — савецкага арла — да сябе. Усяго толькі. Усё астатняе даробяць самі абедзве, аніяк не стыкоўныя між сабою, гаспадаркі: сацыялістычная ў Беларусі і імкліва зрынкаваная ў Расіі. У выніку чаго хоць бы славутая беларуская бульба будзе ў склепе расіяніна даражэйшая, чым польская ці нямецкая. Лукашэнка супраціўляецца рэформам, інстынктыўна прадчуваючы, што яны пахаваюць яго канчаткова. Ягоная драма, быць можа неўсвядомленая, зводзіцца да відавочнай канстатацыі, што гісторыя не адарыла яго занадта працяглым часавым інтэрвалам, нягледзячы на малады век гэтага свайго абранніка.

Зробім зусім падручнікавую памылку, трактуючы Рэспубліку Беларусь як дзяржаву народную, у той час як яна з’яўляецца характэрнай уласна **сацыяльнай** дзяржавай, унікальнай, сапраўды, на еўрапейскім кантыненце, але ўвогуле не такой рэдкай на абшарах Трэцяга свету. Ментальна яна лучыцца з нейкай рэшткавасцю СССР, зменшанага да памераў Беларусі. Адцятым хвастом, што спрабуе зноў прырасці да цела, каб памахаць цэлым сабакам... Калі б гэта была пушыстая зграбная вавёрачка, астатняе можна было б сабе ўявіць.

У такой дзяржаве, якая па задуме яе кіраўніцтва мае паіснаваць як твор усяго толькі сезонны, як своеасаблівы трамплін для штуршка і палёту ў паслясавецкую прастору, не можа быць палітыкі, зарыентаванай на дабро айчыны. Яна ж бы перакрэсліла зна̀ныя сны аб мінулай велічы, неймаверныя высілкі ўваскрашэння яе. Гэта відочна выяўляе тая зацятасць, з якой вынішчаюцца ацалелыя дзе-нідзе — пасля стольких гадоў фармавання маналітнага савецкага народа — парасткі беларускасці. Першы рэферэндум паўсюдна вярнуў стан двухгадовай даўніны, што панаваў у правінцыі былой імперыі пад назваю Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а другі — леташні — аднавіў ранг дзяржаўнай рускай мовы, нібы нароўні з беларускай, які неадкладна быў ажыццёўлены. Азначае гэта смяротны прысуд анемічнай нацыі беларусаў, ператварэнне іх — гэтым разам канчаткова — у перыферыйную разнавіднасць чыстакроўных расіян. Інакш цяжка было б прэзідэнту дзяржавы з нерасійскім аблічкам замахвацца па сутнасці на царства. Сталінскі інтэрнацыяналізм не спрацоўвае, ён цалкам выйшаў з ужытку, таму хуценька была выцягнута з лёхаў славянафільская ідэалогія, якая, што не кожнаму вядома, складаецца з трох галоўных частак: народнасць, праваслаўе, царызм (самадзяржаўе). Да недахопаў гэтай ідэалагічнай сістэмы варта аднесці адсутнасць у ёй адказу, што рабіць з людны̀мі мусульманскімі аўтаноміямі ў Расіі, як і з амаль двухмільённай каталіцкай грамадою ў Беларусі. У гэтым кантэксце клопат з Украінай — непераадольны, бо яна занадта вялікая і ў выніку гэтага амбітная, каб далася запрэгчы яе ў адну запрэжку. Ды і сцяною стаіць за яе Вашынгтон.

Дык што ўрэшце чакае Беларусь? Адказ вельмі просты: чакае яе грамадска-гаспадарчая катастрофа, развал і хаос. Каб гэтага не сталася, трэба, каб ці ажыццявілася мара Лукашэнкі, ці каб выйшаў ён на прэзідэнцкую пенсію. Тое ці другое павінна было б адбыцца неўзабаве. Ды яно не адбудзецца, і адносна гэтага не трэба самападманвацца. Савецкая стыхія будзе жыць дзесяцігоддзі. Давядзецца нам доўга суседнічаць з анахранічнай дэспатыяй, што мяне тым больш засмучае, бо вынішчаецца дух нацыі, яе культура.

## Ад рэдакцыі:

Летась Сакрат Яновіч, знакаміты беларускі, аднак жа і польскі пісьменнік, які жыве ў бацькоўскіх і памежных Крынках, адзначыў сваё 60-годдзе. З гэтай нагоды Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі ўзнагародзіў яго Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, N 101-96-26, а прэм’ер Уладзімеж Цімашэвіч прыслаў яму віншавальны ліст, у якім, між іншым, чытаем: “Шаноўны Пане, з нагоды прыгожага юбілею — 60-годдзя з дня нараджэння — прашу прыняць маё сардэчнае зычэнне здароўя і шчасця. У польскай літаратуры Пан адыгрывае досыць адметную ролю, бо, творачы на дзвюх мовах, Пан выконвае таксама місію лучнасці — праз літаратуру — польскага і беларускага народаў. Адыходзячы ад гістарычных прадузятасцей, у літаратурным, гуманістычным плане стварае Пан шырокую панараму жыцця абодвух народаў, і, не пазбягаючы цяжкіх тэм, спрые ўзаемаразуменню і ўмацаванню сяброўскіх польска-беларускіх сувязей”.

На палях машынапісу артыкула, які ён напісаў па просьбе рэдакцыі і які змешчаны вышэй, Сакрат Яновіч зрабіў ад рукі некалькі ашаламляльных — так мне падалося — прызнанняў, адрасаваных мне асабіста. Сябруем мы і спрачаемся гадоў 20. Тыя прызнанні надзвычай істотныя, безумоўна вартыя публікацыі, шкада было пакідаць іх у шуфлядзе, таму пасля шматлікіх тэлефонных размоў мне ўдалося атрымаць згоду аўтара словы, адрасаваныя мне, надрукаваць. Вось яны:

“Дызю, Ты ўвогуле не ўяўляеш, што значыць быць беларусам. А значыць гэта быць зненавіджаным **таксама** сярод сваіх, якім мой нацыянальны патрыятызм патрэбны гэтак жа, як скула на задніцы. Гэты сялянска-прыгонны народ марыць толькі аб тым, каб урэшце перастаць быць самім сабою. Павер, змучыўся я за чатыры дзесяцігоддзі беларусавання, каб яму здохнуць. Пачынае ўжо абрыджваць гэтая беларуская тэматыка.

Спецыфіка грамадскай беларускай культуры, галоўным чынам яе сучаснай літаратуры — яе шляхецкі радавод, каталіцкае асяроддзе. А тым часам 80 працэнтаў зброду беларускага — праваслаўныя. Таму беларуская культура існуе як бы наўзбоч гэтага народа, як нешта вонкавае, пра што слушна заўважыў нядаўна Паўлючук у “Палітыцы”.

Быкаў сфармуляваў гэта больш дакладна: мы, беларускія пісьменнікі, творым ад імя народа, які быў, але якога ўжо няма, толькі мы таго не заўважылі. Знакаміты філосаф культуры Конан паведаў аб суцэльнай музеяфікацыі беларускай культуры, перанясенні яе ў музеі. Наша нацыянальна-культурная дзейнасць нагадвае мне гадоўлю рыбак у акварыуме: “А как же, у нас есть белорусская культура, пожалуйста...” І паказваем сваіх рыбак.

Няма таго дня, каб хто-небудзь не “пачаставаў” мяне ў Крынках кацапам!

Дызю, пачуваюся змардаваным гэтай Беларуссю, як і нашымі польскімі беларусамі, якія, адпаведна, робяць усё, каб стаць тут палякамі, як там — рускімі. Раблюся публічным ворагам N 1 для многіх. Ды няхай яны прападуць пропадам — станаўлюся рыбаком і пачынаю жыць толькі для сябе. І на гэтым — бывай!”

На копіі віншавальнага ліста, прысланага Сакрату Яновічу з Генеральнага консульства Беларусі ў Беластоку, знаходжу наступныя словы:

“Пішам па-беларуску толькі на паказ для замежжа: о, паверце, мы не савецкія, мы беларусы. Старая бальшавіцкая штучка, тая ж нацыянальная палітыка савецкай улады... Дарэчы: цікаўлюся далейшым працягам твайго рэпартажу пра Бурацію. Для цябе гэта, можа, дробязь, але для мяне надзвычай важна”.

Ад імя рэдакцыі, мяркую, таксама ад усяго Таварыства па супрацоўніцтве Польшча—Усход, якое з’яўляецца выдаўцом гэтага штомесячніка, гэтаксама — спадзяюся — ад імя нашых чытачоў, перадаю Сакрату Яновічу некалькі запозненых, але сардэчных пажаданняў моцы духу, здароўя і цярплівасці дзеля нашага супольнага дабра, і не кажу: Бывай!, а — да пабачэння, слаўны дружа!

**Дзіянізы СІДОРСКІ**

## Калі тэатр вандруе



Вялікая група артыстаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы выправілася на Міжнародны фестываль у Бразілію. Але опернае жыццё ў беларускай сталіцы з гэтай нагоды не перапынілася. Клуб сяброў оперы запрасіў сваіх заўсёднікаў на сустрэчу з лаўрэатам міжнароднага конкурсу салістам тэатра Алегам Гардынцом. У тэатральнай зале адбыўся творчы вечар яшчэ аднаго яркага маладога саліста — лаўрэата міжнародных конкурсаў Алега Мельнікава. З аншлагам прайшоў вечар рускага раманса, а праз тыдзень, 17 красавіка, публіку прывабіў яшчэ адзін цікавы канцэрт — "Любімыя арыі". У абедзвюх праграмах парадавала сваіх прыхільнікаў салістка тэатра Алена Шведава: бліскучая тэхніка, музычнасць, цудоўнае гучанне пяшчотнага каларатурнага сапрана! Застаецца толькі шкадаваць, што мы не можам пабачыць гэтую артыстку ў спектаклі "Рыгалета", арыю Джыльды з якога так натхнёна і шчыра выканала Алена Шведава ў той вечар.

*На здымку: Алена ШВЕДАВА*

## I светлае гучанне фартэпіяна...




**Фестываль "Мінская вясна-97" быў багаты на сустрэчы з майстрамі музычнага мастацтва. Незабыўным святам для публікі стаўся канцэрт выдатных выканаўцаў — нарвежскага скрыпача Ісака Шульдмана ды беларускай піяністкі Веры Лагвіненкі.**

**Пачалася праграма з твораў В. А. Моцарта. Гэта былі яго цудоўныя санаты для скрыпкі ды фартэпіяна.**

**Потым атмасферу храма (Зала камернай музыкі на Залатой Горцы), напоўнілі пяшчотныя і лірычныя гукі экспромтаў Ф. Шуберта; а ў ягоных "Музычных момантах" злучаліся душэўны боль і суцішэнне, усплёск эмоцый і пакорлівае згасанне пачуцця: Вера Лагвіненка грала сола.**

**Затым зноў — дуэт: жвавая, вясёлая, жыццярадасная музыка Санаціны!**

**Публіка не адпускала выканаўцаў: кветкі, шквал апладысментаў... Гралі на "біс" — цудоўную, рамантычную п'есу "Жыццё кветак", вясёлую, іранічную — "Сінкопы", споўнены душэўнай шчырасці вальс Ф. Крэйслера "Пакуты кахання". І думалася пра геніяльных творцаў, якім было наканавана і праз стагоддзі хваляваць свет сваёй музыкай. І думалася пра тых людзей, якія ў нашы нялёгкія дні дораць дабрыню і прыгажосць сваім майстэрствам.**

**В. МАДЭСТАВА**

*Фота А. ЕЛІСЕЕВА*

# Пра "крайнасці", "рамкі сацрэалізму" і іншае...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Калі заканчваў трылогію "Гаспадар-камень" (1989 год), у нас ішла — ды дзе ішла, **тапталася!** — перабудова: сучасныя мяснікоўцы-шавіністы і нацыянальныя нігілісты ад райкома да ЦК сталі сцяной супраць нават невялічкіх змен у сталінска-брэжнеўскай сістэме, супраць нацыянальна-дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, як і іхнія папярэднікі рукамі і зубамі трымаліся за ўладу. Нельга было зноў не патурбаваць сваё шэрае рэчыва: а чаму такая ўладапрага? Чаму дзеля яе прадаюць не толькі сваю душу, але бацькоў, родны край, усё святое, але пры гэтым кленучыся ў непагрэшнасці?

Вось і задумаліся "Заходнікі" з Кураглядавым — чалавекам ва ўладзе. Праўда, чуў нават ад сяброў (той-сёй з іх, як аказалася, прачытаў толькі некалькі першых старонак твора): твае "Заходнікі" ў рэчышчы твораў Брыля і Адамчыка. Маўляў, пра хутар, пра яго гаспадароў з іхняй любоўю да зямлі, да працы, з іхнімі паўшляхецкімі вячоркамі і г.д. Я ўжо не раз прызнаваўся ў вялікай павазе як да твораў Брыля, так і Адамчыка, я шмат чаму ў іх навучыўся і яшчэ шмат чаму вучуся — можа, найперш таму, як карыстацца пісьменніцкімі інструментамі, але вар'іраваць класікаў не мог. Па-першае, паспрабуй паспаборнічаць з тымі там, дзе яны вельмі моцныя, а, па-другое, ці будзе вялікі набытак ад перaймання? Нібы прытрымліваючыся традыцыйнага рэчышча, пэўнага знаёмага ўжо матэрыялу, я тым не менш вырашыў і збочыць, панамагацца выскачыць на іншым, маючы на ўвазе ўсё тое, што ўкладваецца ў паняцце "хутар", за антураж.

А ісці да "крайнасцей", "ламаць рамкі сацрэалізму", дзядзька Уладзімір, я пачаў не з такой свядомай самамэты, а з... Бібліі, з той яе старонкі, на якой "засеў" паўтара дзесятка гадоў таму. Яшчэ раз перачытаў пра тыя тры спакусы Хрыста і нечакана цюкнула ў галаву: пачакай, а гэта патлумачана ўжо ў літаратуры. У прыватнасці, Дастаеўскім у "Братах Карамазавых", у раздзеле "Вялікі інквізітар". Перачытаў той раздзел мо разоў дзесяць, кожны раз вывуджваючы ўсё новае і новае.

Помніце, Дастаеўскі вуснамі свайго героя, Івана Карамазава, расказвае легенду-прытчу: у XV стагоддзі Хрыстос вырашыў спусціцца з неба да людзей. Пачаў зноў ажыўляць мёртвых, выпраўляць калек і сляпых — зноў пайшоў пра яго шырокі пагалас. І вось яго запыняе Вялікі інквізітар — дзевяностагадовы стары, неабмежаваны нічым уладца-святар. Запыняе і строга пытае: чаго ты прыйшоў? Сказаць, што мы скрывілі тваё вучэнне, і папpавіць нас? Забраць права дзейнічаць ад твайго імя, г.зн. замінаць нам? Не трэба! Ты ўсё сказаў XV стагоддзяў таму, каб захацеў, мог бы па падказцы злыдуха ўзяць неабмежаваную ўладу над людзьмі і светам, але ты адрынуў тыя тры прапановы. А ў іх быў векавечны розум, за XV стагоддзяў без цябе іменна яны вызначылі характар гэтай эпохі.

Ты, кажа Інквізітар, завельмі высока падумаў пра людзей, захацеўшы бачыць іх вольнымі і духоўнымі. Такія ёсць, але іх мала. Ты паставіў стаўку найперш на тых, лепшых. Табе параілі: пераўтвары каменне ў хлеб — увесь люд хлыне за табой. Ты ж дзеля волі, людской духоўнасці не захацеў купляць іхнюю схільнасць лустай. А між тым, каб наталіць голад, пераразмеркаваць багацці, — дзеля гэтага было, ёсць і будзе нямала войнаў і рэвалюцый, былі самыя жудасныя злачынствы, што, праўда, аб'яўляліся законнымі і святымі. "Накармі, а тады патрабуй ад нас дабрачыннасці", — казалі, кажуць і будуць гаварыць мільёны. Люд пойдзе на ўсё, сам аддасць сваю волю, згодзіцца на любое рабства, дыктатара-людаеда будзе лічыць за бацьку, нават за Бога, абы быў насычаны страўнік. Таму былі, ёсць і будуць дэспаты, якія падбіраюць кінутую да іхніх ног волю і заяўляюць, што яны прыйшлі кіраваць дзеля людскога шчасця, у імя святой ідэі. Калі б, папікае Інквізітар, ты некалі накарміў усіх, то тады ўжо вырашыў бы людское пакутлівае пытанне: перад кім схіліць галаву? І прытым, каб пакланяцца ўсім разам. З-за яго, усеагульнага пакланення, многія плямёны і народы знішчалі іншыя плямёны і народы, аб'яўляючы свае веру і лад "вышэйшымі", а веру і лад іншых — "ніжэйшымі". Але воляй люду завалодвае не кожны, а той, хто супакоіць яго сумленне, бо інaчай многія могуць кінуць дадзены ім хлеб і пайсці за тым, хто іх спакусіць чымсьці большым, падкажа, дзеля чаго трэба жыць. Ты ж, вядзе сваё Інквізітар, не суняў волю, а памножыў яе, усклаўшы задачу кожнаму самому вырашаць, дзе дабро і зло, рабіць выбар, чым абцяжарыў розум і душу чалавека так, што ён можа з-за свайго бяссілля праклясці і цябе. Табе, Хрыстос, падказвалі тры рэчы, якімі можна запалоніць усіх: **цудам, тайнай і аўтарытэтам**. Ты ж адмовіўся ад гэтага, не толькі не пераўтварыў каменне ў хлеб, але і не кінуўся з гары ў бездань, каб не выпрабоўваць Бога, а пасля, распяты, не сышоў з крыжа, хоць цябе прасілі: сыдзі і мы паверым, што ты — гэта ты. Ты не зажадаў авалодваць людам праз цуда, заманілася табе волі вольнай, а не цудавай, ты не захацеў рабскага захаплення перад магутнасцю. Калі б ты не уздымаў чалавека так высока, дык і менш запатрабаваў ад яго, паколькі ён слабы і подлы. Тым больш, што ён любіць бунтаваць, а ў бунце жахлівы, можа разбурыць усё, у тым ліку і твой храм, налье мора крыві. Адпаведна, мы, прызнаецца Інквізітар, мусілі папpавіць тваё вучэнне. Праз цуда, тайну і аўтарытэт (сапраўды, хіба не якраз так кіраваліся тыя ж бальшавікі, выкармак якіх і Кураглядаў з "Заходнікаў": "**цуда**" — гэта ідэя сацыялізму і камунізму, г.зн. раю на зямлі, "**тайна**" — сакрэтныя справы ад райкома да палітбюро, "**аўтарытэт**" — генсек, якога ўзвышалі да Бога?). І люд, запэўнівае Інквізітар, пайшоў статкам за імі, пастухамі, што пачалі дзейнічаць ад імя Хрыста, але панеслі службу злыдуху, спаўняючы ўсе тры ягоныя наказы. Інквізітары сталі ўладарцамі і пачалі дбаць пра сусветнае панаванне (успомнім канцэпцыі **сусветнай рэвалюцыі**!), прыкрываючыся клопатам пра шчасце людзей усяго зямнога шара. Калі б ты, злуецца Інквізітар, не адрынуў трэцяй спакусы, заўладаў Сусветам, дык ужо тады ўладкаваў бы зямны мурашнік і не было б розных чынгісханаў (а г.зн. і пятроў першых, напалеонаў, гітлераў-сталіных), якія праляталі па зямлі вынішчальнай віхурай, спаўняючы вышэйшую волю пра сусветнае ахамутоўванне. Мы ж, верыць Інквізітар, рана-позна асядлаем Сусвет, дадзім падначаленым мір, работу, пэўныя ўцехі, дазволім ім крыху грашыць і заявім, што высакародна возьмем на сябе выкупліванне іхніх грахоў, адпаведна яны слепа палюбяць нас, паколькі мы пазбавім іх ад цяжару думак, сумненняў і рашэнняў, урэшце выбару. Калі ж ты, Хрыстос, пагражае Інквізітар, запратэстуеш, выкрыеш нас, то я, дарагі мой, адным кіўком пальца пашлю цябе на касцёр як усіхнага злашкодніка (ворага народа! бэнээфаўца!), і ўсе плоймай кінуцца падграбаць гарачае вуголле да тваіх ног. "Ведай, — ухмыляецца Інквізітар, абгрунтоўваючы сваё сатанінскае права на ўсёдазволенасць, — што цяпер і якраз зараз гэтыя людзі ўпэўненыя больш чым калі, што вольныя ўпаўне, а між тым самі ж яны прынеслі нам волю сваю і паслужліва паклалі яе да ног нашых", "і людзі зацешыліся, што іх ізноў павялі як статак". Сапраўды, давайце зірнём, хто быў, ёсць побач каля так званых зямных уладык: вышэйшыя іерархі! Здавалася б, іхняя паства — найперш гаротныя і бедныя бабулі, але яны, іерархі, вунь якія дагледжаныя!..

Дык вось у тым, 1989 годзе, нагадаўшы ўсё гэта, нельга было, дзядзька Уладзімір, не задумацца пра нашу тагачасную ўладу, пра яе структуры і механізмы (пранафталіненых паслугачоў яе выцягваюць на свет Божы і цяпер). У выніку неяк лепш заўважылася, што туды, ва ўладу, абы-каго не бралі і не бяруць, ідзе тайны старанны адбор, усё галоўнае вырашаецца за шчыльна зачыненымі дзвярыма, якія ахоўвае чалавек са зброяй і мае самыя вялікія паўнамоцтвы. Убачылася: быў, ёсць апарат — паслухмяныя функцыянеры, у характарыстыках якіх цэнтральнае вызначэнне "идейный и исполнительный", і чым гэтага больш, тым больш паспяховае ўзыходжанне па лесвіцы да большай улады і большага карыта. Як заўважалася, апаратчыкаў часта мянялі, перакідвалі з месца на месца, каб у іх не мацнелі сувязі і каб яны па-ранейшаму былі паслужлівай зброяй у руках Гаспадара-інквізітара (у нас, не сакрэт, былі як мінімум дзве групоўкі: магілёўска-гомельская і віцебская, у асноўным са староверaў, г.зн. з сем'яў з прарускімі поглядамі, а цяпер — магілёўская і з вайскоўцаў ды са спецорганаў). Адчулася: людская пакора, а то і любоў да партыі і яе сінкліта праз сляпую веру і праз страх (боязь не атрымаць адукацыю, лепшую работу, кватэру, зарплату і г.д.).

У перабудову ўсё ж выбліснуў праменьчык дэмакратыі. Ды стала адразу ж відавочна: масы да яе не гатовыя, не ведаюць, што з ёй, нават папяровай воляй, рабіць. Гэтая з'ява заўважана ўжо даўно. К. Пруткоў: "Многія людзі падобныя да кілбасаў: чым іх напхнулі, тое і носяць у сабе". А да ўсяго ў нас за стагоддзі адвучылі люд ад разумення ідэі, формы сваёй нацыянальнай свядомасці, народнасці, дзяржаўнасці і, бадай, зусім пазбавілі здольнасці да палітычнай філасофіі. У сіле пачуццё непазбежнасці і падпарадкаванасці. І гэта — сцяна-мур, а то і турма. "З кансерватызмам народа, — пісаў А. Герцэн, — змагацца цяжэй, чым з кансерватызмам трона ці амбона". Таму зусім невыпадкова, што наш люд баяўся і баіцца інтэлектуалаў, людзей, якія кажуць горкую праўду і заклікаюць "людзьмі звацца", "заняць свой пачэсны пасад між народамі": для многіх гэта паняверка і страх, боязь пазбавіцца свайго рабства і халуйства перад іншымі. Адпаведна, у такой сітуацыі не магло не адбыцца тое, што падкрэсліваў геніяльны Дастаеўскі: "У смутны час ваганняў або пераходаў, заўсёды і ўсюды ўскоквае розная свалата, што ёсць у кожным грамадстве". І ў нас, як прусакі са шчылін, як чэрці з балот, выскачылі ўладалюбцы, пакрыўджаныя, дэмагогі, хапугі, хлусы, што паспрабавалі ўварваць пры новых абставінах, але абачліва падаўшы сябе за "шп" — "шваіх парней". Інквізітары не маглі не абсачыць гэтую пену, выбраць з яе самых карыслівых і прадажных. Значыць, не маглі не выслізнуць на паверхню апантаныя. Яны не маглі не заявіць, што па-інквізітарску заяўлялі мусаліні-гітлеры-сталіны: "Я дам усім усё! Вучням — вышэйшую адукацыю, студэнтам — большую стыпендыю, рабочым — вялікую зарплату і кватэры! Салдаты стануць афіцэрамі, афіцэры — генераламі, незамужнія выйдуць замуж, пенсіянеры заможна зажывуць на старасці! Я перасаджу злачынцаў! Вы пры мне атрымаеце рай на зямлі!" Што — гэта? Лухта з лухты!!! Але яна, гэтая лухта, спрацоўвае, бо яна, як казаў Інквізітар, авалодвае розумам, сумленнем людзей, якія ў нас найперш спадзяюцца на Гаспадара, на Моцную Руку і Дысцыпліну! На таго, хто навядзе лад, дасць хлеб і да хлеба — той, што пасеяў і сабраў ён сам, люд!!! Так некалі падманулі, павялі Расійскую імперыю, Італію, Германію! Фюрэры і генсекі, як вядома, жадаюць кіраваць пажыццёва (інача́й, рана-позна разабраўшыся, іх, як таго ж Мусаліні, падвесяць за ногі ўверх). З іх спачатку пасміхваюцца як з блазнаў, але з інквізітарскай рукі яны паволі адсейваюць ненадзейных таварышаў, з якімі разам хлусілі, ішлі да ўлады, ствараюць новы, паслухмяна-бязмоўны апарат, што тасуюць як калоду карт, прымаюць законы пад сябе, а затым нечакана так схопліваюць грамадства за каршэнь, што тут ужо не да смеху! Зноў — пакора, любоў праз сляпую веру і страх, слёзнае расчульванне ад маленечкай падачкі... А ён, дыктатар пад кантролем, літаральна п'янее: яму — улада, самыя шыкоўныя кабінет, машына, а то і самалёт, спецжыллё і медабслугоўванне, жанчыны і халуі... Але, паўторым, гэта пад кантролем... Адпаведна, хто кіруе, а хто агучвае гэтае кіраўніцтва, простаму чалавеку ніколі не зразумець... Узнясенне і пагібель інквізітаравых парабкаў, гэтых першых сакратароў, прэзідэнцікаў заўсёды загадкавыя...

Спачатку я, дзядзька Уладзімір, намерваўся, як казаў, напісаць пра задуманага (бачанага ў жыцці) уладцу Кураглядава штосьці філасофска-містычна-фантастычнае, тым больш, што тады развівалі ідэю звышлітаратуры, а нашу прозу папікалі цягамоцінай. Гэта акадэмік В. Каваленка дазваляе сабе заяўляць, што, маўляў, такія, як я, мала знаёмы з сусветнай літаратурай, працуюць не ў рэчышчы агульначалавечых каштоўнасцей, а на паўфальклоры (гл. "Нёман", 1997, N 1). Зразумела, не скажу, што ведаю сусветную культуру вельмі добра, хоць крыху лепш за Каваленку, але і не буду

прыніжацца, тое-сёе прачытаў (на рускай, польскай і ўкраінскай мовах, на нямецкай са слоўнікам), дык думаў напісаць штосьці падобнае на "Восень патрыярха". Пачаў і... кінуў. Не пайшло. Можа, і ад таго, што ў нас занадта рэальная гісторыя, занадта рэальная народная бяда, каб адракацца ад... рэалізму. Ды адчуў ужо: ведай як мага больш, але будзь найперш самім сабою — літаратуру нараджае не столькі літаратура, колькі жыццё. Ды неяк глыбока запалі словы любімага мною У. Фолкнера: "Пачынаючы з "Сартыроса", — пісаў ён, — я ведаў, што кавалачак роднай зямлі велічынёю з паштовую марку заслугоўвае, каб пра яго пісаць, і што не хопіць жыцця, каб сказаць пра яго ўсё, ведаў, што, пераплаўляючы жыцейскае ў апакрыфістычнае, я дасягну тых вышынь, што мне суджана дасягнуць, і тут усё ўжо залежыць толькі ад мяне самога. Я ўбачыў жыццё іншых людзей, і гэта была залатая жыла; я стварыў свой свет". Давайце будзем шчырыя: часамі той, хто пасягае на ролю агульначалавечнасці, падобен на героя з брылёўскай мініяцюры: "Паслухайце, у яго ж няма голасу!", "Але затое зірні: як ён шырока разяўляе рот!"

Менавіта "кавалачак роднай зямлі" быў у цэнтры ўвагі многіх выдатных майстроў слова, якімі нельга не захапляцца: скажам, у Буніна — у апавяданнях і "Жыцці Арсеньева", у Рэйманта — у "Сялянах", у Андрыча — у "Мосце на Дрыне", у Шолахава — у "Ціхім Доне", у Лакснеса, у Кавабаты і г.д., і г.д. Між іншым, як помніце, Я. Кавабаце далі Нобелеўскую прэмію за аповесці "Снежная краіна" і "Тысячакрылыя журавы" за класічнае **японскае** ўяўленне пра хараство, за **японскі** лад прозы!..

Думаў-разважаў я, дзядзька Уладзімір, і напісаў такія свае "Заходнікі", якія яны выйшлі, пабудаваўшы раман так, каб, з аднаго боку, самому расказаць пра чалавека, які мог бы быць нармальным гома сапіенс, добрым шафёрам, але, агледжаны і падняты сталінскай сістэмай, стаў мясцовым інквізітаравым слугой, а, з другога боку, даў шанц і яму, "заслужанаму ветэрану", патлумачыць сваё жыццё, г. зн. змясціў кнігу ў кнізе. Не буду таіцца, да слова, І. Шамякін заўважаў мне, што Кураглядаў не павінен на старасці так ухваляць сталіншчыну і ўсё сваё былое, у тым ліку і свае злачынствы: час павінен быў паўплываць на яго, змусіць задумацца і многае пераацаніць. Канечне, на добры толк так і павінна быць, але ў жыцці, на жаль, бывае інакш: колькі вось ні слухай, ні чытай успаміны былых партыйна-дзяржаўных функцыянераў, — усіх, хто выслужыў сабе жыццё і дабрабыт, — амаль ніхто з іх ні ў чым не каецца, гаворыць, піша так, як і Кураглядаў: "Я жыў і працаваў так, як трэба, дык магу смела пазіраць у вочы ўсім сумленным людзям".

"Заходнікі" закончаны ў 1992 годзе і якраз радкамі з мемуараў Кураглядава: "Не ведаю, што і як будзе далей, але веру: перабудова не ўдасца. Як бы мяне ні папікалі, усё ж я лічу цвёрда: нам не абысціся без Гаспадара, Моцнай Рукі і Дысцыпліны".

Апошняе пяцігоддзе, на жаль, паказала, што кураглядавы ў нас па-ранейшаму і ў сіле, і ў цане, памагаюць рэанімаваць нялепшае былое, разбураць наш нацыянальны і дзяржаўны суверэнітэт, гістарычныя памяць і сімвалы, мову і культуру, а гэтым самым па-ранейшаму не дапускаць, каб лік шчырых, сумленных, г. зн. лепшых большаў, каб як мага меней было Асоб, бо не будзе іх — не будзе і народа, а без народа не будзе і дзяржавы. Па-іхняму мы былі і павінны быць толькі рабсілай нарыхтоўчай канторы. І ў нас гэта інквізітаршчына мае спрыяльную глебу! Яе выказнікі і выканальнікі, нават вельмі не тоячыся, ва ўсю спаўняюць злыдухаў наказ! А мы???

...У маёй сям'і была нарада: атрымліваць мне **Дзяржпрэмію** ці не. Усё вырашыла мая дачка-студэнтка, яна літаральна ашаламіла мяне пытаннем: "А чаму ты, тата, так упэўніўся, што гэтая высокая ўзнагарода асабіста табе? А можа, яна беларускай прозе за апошнія чатыры гады? Ці ты, празаік, не ўшаноўваеш усю беларускую прозу?"

Пры ўручэнні Дзяржпрэміі ў прэзідэнцкім кабінеце некаторыя гаварылі нямала (між іншым, мастак М. Савіцкі амаль плакаў, што "в Белоруссии растет ненависть к России", зусім не зважаючы, што ў Беларусі гіне беларускае). Асабіста я сказаў прэзідэнту наступнае: "Дзякую. Аляксандр Рыгоравіч, беражыце беларускую мову". Ён павярнуў твар убок, але паколькі я, кавальскі сын, не выпусціў са сваёй рукі ягоную моцную руку, ён адказаў: "Пішыце на ёй, і яна зберажэцца"...

...Я рады, што знаўся і знаюся з Вамі, дзядзька Уладзімір. Вы — з тых, хай сабе і нямногіх, на каго разлічваў Хрыстос...

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

АРХІВАРЫУС

# Цвёрда стаяў за Беларусь

## АНТОН ЛУЦКЕВІЧ ПРА АЛЕСЯ БУРБІСА

Алесь Бурбіс... 20 гадоў свайго жыцця ён аддаў самаадданай працы дзеля адраджэння і ўзвышэння роднага народа, які ён любіў аддана і бязмежна.

Асоба Алеся Бурбіса з яго кіпучым характарам, адвагай, адданасцю рэвалюцыйнай справе — уражвае. Ён нібы спяшаўся жыць, прадчуваючы жорсткасць лёсу, які падорыць яму толькі 37 гадоў. Тыя, хто сустракаўся з Бурбісам, не маглі не захапляцца ім. Нарыс пра А. Бурбіса падрыхтаваў і Антон Луцкевіч. Працуючы ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, я знайшоў рукапіс гэтага нарыса. Ён дазваляе вачыма аднаго з кіраўнікоў беларускага адраджэнскага руху паглядзець на Алеся Лаўрэнавіча Бурбіса. Вось што пісаў пра яго Антон Луцкевіч:

"Бурбіс Аляксандр, сын Лаўрэна, нарадзіўся ў 80-ыя гады мінулага стагоддзя ў Вільні, дзе яго бацька быў на службе ў інтэнданцтве сапёрнага батальёна. Вучыўся Бурбіс у віленскай гімназіі, але не скончыў яе. Яшчэ на школьнай лаўцы з групай радыкальнай моладзі, даволі блізкай да ППС (Партыя польскіх сацыялістаў), але настроенай "краёва". Тут пачынаецца і нацыянальнае самавызначэнне Бурбіса, якое аформілася канчаткова ў сувязі з заснаваннем Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады (1903 г.). Частка сяброў той краёва-радыкальнай групы, у якой Бурбіс пачаў супрацоўнічаць актыўна ў 1902 годзе, перайшла да Грамады, а з ёй і Бурбіс. У Грамадзе Бурбіс іграе чынную ролю — на віленскім грунце. У Вільні, а таксама і ў Нова-Вілейцы ён — разам з Цёткай (Алаізай Пашкевіч, пасля Кейрысавай) — працуе сярод вучнёўскай моладзі, распаўсюджвае рэвалюцыйную літаратуру, арганізоўвае беларускія рэвалюцыйныя гурткі. Асабліва чынны падчас рэвалюцыі 1905 года — працуе ў цесным кантакце з віленскімі арганізацыямі L.S-D (Віленская арганізацыя літоўскіх сацыялдэмакратаў), Бунд (Віленская арганізацыя Бунда), Р.С.Д.п. (Віленская арганізацыя РСДРП), ППС Літвы (Віленская арганізацыя партыі польскіх сацыялістаў). Выступае публічна — на мітынгах.

Увосень 1905 года едзе ў Мінск на партыйны з'езд Грамады, як адзін з дэлегатаў віленскай групы грамадоўцаў. На гэтым з'ездзе Бурбіс быў выбраны кандыдатам у сябры Цэнтральнага Камітэта Грамады, якая змяніла сваю назву на "Беларускую Сацыялістычную Грамаду".

У тым жа 1905 годзе Бурбіс адыграў паважную ролю ў яркім рэвалюцыйным выступленні ў Мейшаголах, пад Вільняй. Пры яго актыўным удзеле ў Мейшагольскай воласці была выбрана свая рэвалюцыйная валасная ўлада, а прадстаўнікі царскай улады паўцякалі. У Вільні ўзнялася трывога. Была паслана ў Мейшаголы вайсковая жандармерыя, якая сілай зброі "вярнула парадак". Бурбіс уцёк з Мейшагол і доўгі час хаваўся, але ўрэшце быў арыштаваны і асуджаны на 3 гады крэпасці. Кару адбыў у Вільні на "Лукішках". Да арышту Бурбіс нейкі час працаваў нелегальна ў Мінску ў складзе мясцовага камітэта Грамады.

Пасля выхаду з астрога — ужо падчас чорнай рэакцыі — Бурбіс зноў працуе ў Вільні, але ўжо на грунце культурна-нацыянальнага. У 1910 годзе яго нястомнай працай арганізуецца драматычная дружына, беларускі хор (пад кіраўніцтвам Л. М. Рогаўскага) і балет (пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага). Адбываюцца першыя ў Вільні легальныя беларускія спектаклі. З яго ж удзелам арганізуецца беларускі аб'езны (вандроўны) тэатр, які працуе на працягу некалькіх гадоў — да выбуху першай сусветнай вайны. У 1911 годзе Бурбіс прымае ўдзел у стварэнні ў Вільні "Беларускага музычна-драматычнага гуртка" і належыць да складу прэзідыума яго.

Калі рускія войскі пакідалі Вільню (1915 г.), Бурбіс выехаў на ўсход, як "бежанец" — разам са сваёй жонкай (літвінкай). З моманту выбуху лютаўскай рэвалюцыі Бурбіс зноў актывізуецца, як левы грамадовец, і прымае чынны ўдзел у беларускай працы. Калі левае крыло Грамады ператварылася ў Камуністычную партыю Беларусі (КПБ), у апошнюю ўвайшоў і Бурбіс. Пасля "кастрычніка" і абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Бурбіс заняў адказнае становішча прадстаўніка ўрада БССР пры маскоўскім цэнтральным урадзе РСФСР.

Напружаная праца і розныя нягоды ў прыватным жыцці Бурбіса падарвалі яго здароўе, і без таго слабы з прычыны цяжкіх варункаў папярэдняга жыцця — вечнай галоты, астрогу і г. д. ён пачаў хварэць на грудзі (туберкулёз) і ў 1922 годзе памёр.

Адзначаўся Бурбіс надзвычайнай стойкасцю і энергіяй у працы, меў вялікія арганізатарскія здольнасці. Нягледзячы на прыналежнасць да КПБ, быў да канца жыцця абаронцам беларускай нацыянальнай справы і цвёрда стаяў у Маскве за Беларусь і яе інтарэсы.

Мінскія работнікі ўшанавалі памяць Аляксандра Бурбіса, назваўшы яго імем некалькі ўстаноў".

**Падрыхтаваў М. БАНДАРЭНКА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік НАРБ,**
**кандыдат гістарычных навук**

# Нацыянальны, каталіцкі

Шэраг нацыянальных трагедый, што выпалі на долю беларускага народа, паставілі на мяжу яго духоўныя і фізічныя сілы. Менавіта вера ў Бога дапаможа вярнуць беларусам маральныя цноты, думку, слова, індывідуальнасць, вырваць люд беларускі з абцугоў самазнявагі, знішчэння лепшых рысаў асобы. Роля чалавека багатага духоўнага свету сёння надзвычай важная, калі так неабходна падтрымаць у нашым народзе веру ў свае сілы, самапашану, трапяткое стаўленне да Бога.

З мэтай адраджэння нацыянальных, духоўных, культурных, гістарычных хрысціянскіх каштоўнасцяў (у тым ліку лепшых традыцый езуіцкай адукацыі) на Беларусі, данясення Божага слова да сэрцаў людскіх, выхавання рэлігійнай талерантнасці і рэалізацыі ідэй полікультурнай і элітарнай адукацыі ініцыятыўная група з ліку прадстаўнікоў навуковай і творчай інтэлігенцыі Беларусі лічыць неабходным стварэнне альтэрнатыўнай (каталіцкай) сістэмы скразной (непарыўнай) недзяржаўнай адукацыі (дзіцячы сад — гімназія, ліцэй — ВНУ).

Першы крок у згаданым кірунку — стварэнне беларускага каталіцкага універсітэта, які дасць магчымасць атрымання сучаснай еўрапейскай вышэйшай адукацыі (спецыяльнасці — "тэалогія", "катэхізацыя", "філасофія", "філалогія"). Высокая якасць падрыхтоўкі спецыялістаў будзе забяспечвацца выкладчыцкай працай вядомых вучоных краін Еўропы, Беларусі. Выкарыстанне заходніх мадэляў адукацыі і вывучэнне замежных моў, супрацоўніцтва з аналагічнымі навучальнымі ўстановамі Заходняй Еўропы паслужыць гарантыяй працаўладкавання як на Беларусі, так і за мяжой. Сфера дзейнасці выпускнікоў — у касцельных структурах, у рэдакцыях, выдавецтвах, у дзяржаўных арганізацыях у якасці рэферэнтаў, спецыялістаў па справах рэлігій, у сістэме адукацыі і навукі і г. д.

Маючы Блаславенне і падтрымку Яго Эмінэцыі шанаванага Ксяндза Кардынала Казіміра Свёнтака і каталіцкага касцёла на Беларусі ў цэлым, чакаем вашых канструктыўных прапаноў, канкрэтных ідэй (у частцы фінансавання, структуры, арганізацыі такой навучальнай установы і інш.) на адрас: 220050, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15, Інстытут Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, сектар філалогіі.

ПАМЯЦЬ

# Ведаў мастацтва знутры

Пякуча горка прамаўляць пра чалавека слова ў мінулым часе, асабліва калі ён пакінуў зямны свет дачасна.

На шасцідзесятым годзе жыцця не стала Міхала Аляксандравіча Каладзінскага. З тых, хто навучаўся ў мяне, ён стаў вартасным вучнем, прытым адным з найблізкіх. Жыццёвая і творчая дарога Каладзінскага вызначалася свядомай мэтанакіраванасцю. Дзевятнаццацігадовым вясковым юнаком ён прыехаў у Мінск, каб вучыцца акцёрскаму мастацтву. А калі не прайшоў па конкурсе, паступіў у Дзяржаўны тэатр лялек і за шаснаццаць гадоў працы ў гэтым калектыве стаў адным з вядучых і вельмі папулярных акцёраў. Калі ж у 1962 г. у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце быў аб'яўлены першы набор на тэатразнаўчае аддзяленне, М. Каладзінскі абраў гэтую прафесію. На ўступным экзамене яго рэцэнзія на спектакль яшчэ не асабліва вылучалася, затое вусны адказ па глыбіні думкі, па прапанаваных ідэях выйшаў проста бліскучы, і ўжо нам, экзаменатарам, трэба было клапаціцца, каб гэты абітурыент прайшоў конкурс.

Навучанне ў інстытуце было завочным і, не пакідаючы працы ў тэатры, М. Каладзінскі з першых жа крокаў акрэсліў кола даследчыцкіх інтарэсаў — мастацтва беларускага лялечнага тэатра, яго гісторыя і практыка. Пасля інстытута стаў аспірантам, працягваў распрацоўваць тую ж, што і ў інстытуце, тэму, пашыраючы яе абсягі, заглыбляючыся ў праблемы. Навучанне завяршылася абаронай у 1972 г. кандыдацкай дысертацыі "Тэатр лялек Савецкай Беларусі", а крыху пазней — выданнем манаграфіі пад той жа назвай, і па сённяшнім часе самым значным даследаваннем у гэтай галіне айчыннага мастацтва.

Пра творчасць лялечнікаў М. Каладзінскі апублікаваў нямала прац — у розных энцыклапедычных выданнях, даведніках, у калектыўных навуковых зборніках, перыёдыцы. Ён ведаў гэта мастацтва знутры, усе яго нябачныя для гледачоў таямніцы і, натуральна, як даследчык і крытык не меў сабе роўных.

Другая сфера навуковых інтарэсаў М. Каладзінскага — беларускі фальклорны тэатр ва ўсіх праявах і формах, яго народныя карані і вытокі, шляхі развіцця да высокага мастацтва. Гэтымі праблемамі ён таксама займаўся многа — недзе з 1972 г., калі перайшоў на працу ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору і да апошняга свайго часу.

Памятаю, мне было даручана весці з Міхалам Аляксандравічам перамовы, каб пакінуў тэатр і заняўся выключна даследчыцкай працай. Ведаю, як цяжка акцёрам пакідаць падмосткі. А М. Каладзінскі тады быў у росквіце сіл і таленту: толькі адзін яго сцэнічны шэдэўр — Люцыус у "Чортавым млыне" літаральна ашаламляў публіку. І як я здзівіўся, што знаны акцёр лёгка згадзіўся на прапанову. Мабыць, добра разумеў адказнасць будучай справы. І, дарэчы, ніхто ў гэтым не памыліўся.

У знакамітым Зборы беларускага фальклору М. Каладзінскі выдаў том "Народны тэатр". Яго ўкладанне тэкстаў, абшырныя ўступны артыкул і каментарыі вызначаюцца грунтоўнасцю, навуковай глыбінёй. У трохтомнай капітальнай працы "Гісторыя беларускага тэатра" ў чатырох кнігах М. Каладзінскі выступіў аўтарам раздзелаў па нацыянальным народным мастацтве, як і па іншых тэмах.



Яшчэ раз я паклікаў Каладзінскага на новую, ужо педагагічную працу — дацэнтам у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, дзе [illegible]ладаў з 1985 г. да канца [illegible]. Сэрца ўжо колькі год назад не дазволіла Міхалу Аляксандравічу Каладзінскаму давесці блізкія да завяршэння справы — абарону доктарскай дысертацыі і выданне асобнай кнігай манаграфіі пра надзвычай багаты і яркі беларускі фальклорны тэатр, неадменным знаўцам якога ён быў і застаецца ў гісторыі нашай айчыннай культуры.

**Анатоль САБАЛЕЎСКІ**

ЗГАДКІ

# "Мы з табой нібы сваякі..."

НЕЯК ПЕРАБІРАЎ старыя часопісы і ў дзевятым нумары "Маладосці" за 1992 год наткнуўся на вершы Кірэйчыка. Прачытаў, перачытаў яшчэ... Выдатныя вершы! Няўжо я прапусціў іх тады, калі атрымаў часопіс? Чаму ж не напісаў Івану? Не пазваніў, не павіншаваў... Мусіць, быў у адпачынку. А мо тады вершы не ўразілі так, як цяпер, калі аўтара ўжо няма? — шукаў сабе апраўдання. — Але ж можна гэта зрабіць і праз месяц, і праз два. Сказаць добрае слова ніколі не позна...

Пра што тыя вершы? Вось першы — "Грыбная адзінота".

***Тут і мае раслі грыбы,***
***На гэтай просецы***
***даўно быў:***
***Мяне ж з ёй разам загубіў***
***Часінай страшнаю***
***Чарнобыль...***

***Грыбныя ўлонні без людзей***
***Па спелым***
***часе вераснёвым.***
***Яны ж —***
***як лёсы без надзей,***
***Як чорны дзень мой***
***пажыццёвы.***

Моцна сказана. І не крыкам, не бяздушнай рыторыкай. Тут прамаўляе душа, глыбокае пачуццё.

...Я доўга глядзеў на здымак. Нейкі незнаёмы быў Іван на гэтай фатаграфіі. Праўда, чупрына яшчэ густая, але ўжо з прыкметнаю сівізной, твар цяжкаваты, вочы задумлівыя, ад прамога носа дзве рэзкія журботныя зморшчыны.

Успомніў, што ў нядаўнім лімаўскім некралогу, які балюча ўразіў сваёй нечаканасцю, здымак зусім іншы. Адшукаў нумар штотыднёвіка. Так і ёсць: пад чорнай рамкай прыгожы кучаравы малады Іван Кірэйчык. Цёмны пінжак, вузкі, некалі модны гальштук, і універсітэцкі ромбік на штрыфлі. О, гэты ромбік! Нялёгка даўся ён Івану, бо вучыўся завочна. І я ведаю, што гэта такое — завочная вучоба.

"16 лютага 1996 года на 61-ым годзе жыцця памёр..." — выхапілі вочы радкі некралога. А сёння якога? На календары было 16 сакавіка, субота... Мінуў роўна месяц...

Гэтакім кучаравым і прыгожым быў Іван у тым далёкім 1961-ым, калі мы пазнаёміліся.

●

Спякотны ліпеньскі дзень. Студэнты-завочнікі, што называецца, парыліся на экзаменацыйнай сесіі. Я толькі дэмабілізаваўся з флоту, здаваў экзамены за чацвёрты курс. Быў адзін у пакоі на другім паверсе. Выйшаў набраць вады, каб згатаваць чаю, а замок французскі — пстрык — і дзверы зачыніліся. Даўжэзны пляскаты ключ застаўся на тумбачцы. Дзяўчаты на гэтым паверсе не жылі, то я выйшаў у трусах і ў майцы, бо вельмі ж горача было. Прайшоў па калідоры, раздумваючы, што рабіць. Убачыў за шклом скручаны рукаў пажарнага шланга. Мільганула думка...

Падняўся на трэці паверх, пастукаў у пакой, які быў напроці майго, дакладней — над маім. Увайшоў — на ложках ляжалі два хлопцы і грызлі навуку.

— Хлопцы, прабачце, што патурбаваў. Ды яшчэ ў такім выглядзе, — растлумачыў сітуацыю. Хлопцы заўсміхаліся. Я дадаў у сваё апраўданне. — У флоцкіх штанах вельмі горача.

— А ты дзе служыў? На якім флоце?

— На Балтыцы. У Таліне, у Балтыйску...

— І я ў Балтыйску служыў. У газеце "Страж Балтики" друкаваўся?

— Канечне, друкаваўся.

— І мае вершы, допісы там публікаваліся... Ну што ж, трэба ратаваць земляка. — Ён падняўся з ложка, рослы, кучаравы сінявокі. — Бяры мае спартыўныя штаны. Падкасаеш трохі...

Потым я прынёс пажарны шланг, прывязалі яго за парэнчы балкона, Іван страхаваў, а я спусціўся на свой балкон. Дзверы ў пакой былі адчыненыя, і прыгода з ключом шчасліва завяршылася. Іван завітаў да мяне, разам выпілі чаю (нічога з градусамі не бралі ў рот: ні лішняга часу, ні грошай на гэта не было). Ды і гаманілі нядоўга.

— Ну і салага! Як ты мяне абскакаў! Я старэйшы на тры гады, і яшчэ на трэцім курсе, а ты ўжо на чацвёртым...

Іван расказаў, што родам з Ганцавіцкага раёна, з Палесся.

— Ведаеш, я па бацьку — Кірэевіч. А ў цябе прозвішча — Кірэйчык. Відаць, ад гэтага імя ўтворана?

— Ну дык бачыш, мы з табой нібы сваякі.

І ў наступныя дні сустракаліся на калідорах паміж лекцыямі.

— Здароў, Кірэевіч! — вітаўся ён.

— Здароў, Кірэйчык! — адказваў я, і абодва рагаталі.

Неўзабаве сесія скончылася, і мы раз'ехаліся.

●

Вясна 1965 года. Я прыехаў у камандзіроўку ў Ляхавічы ад газеты "Знамя юности", дзе працаваў пасля універсітэта. Заданне меў такое: напісаць, як моладзь бавіць вольны час. Застаўся ў Ляхавічах і на выхадны дзень. І вось у нядзелю рэдактар мясцовай "раёнкі" прапанаваў паехаць з ім да Васіля Праскурава, які жыў у Ганцавічах. З Праскуравым я быў ужо знаёмы і з радасцю прыняў прапанову.

Старэнькая, абшарпаная рэдакцыйная "Волга" даволі хутка пераадолела адлегласць паміж двума райцэнтрамі, і вось мы ўжо ў гасціннай хаце Праскурава, што стаяла між маладых дрэўцаў на ўскрайку гарадка. Гаспадар чакаў нас. Чакаў і Кірэйчык.

Шмат было пытанняў, размоў. Праскураў засяроджана слухаў, гаварыў мала, затое Кірэйчык не сціхаў — быў нападпітку, вясёлы, расчырванелы. Хваліўся, што здаў у выдавецтва кнігу апавяданняў і нарысаў, цяпер "трохі расслабіўся", бо універсітэт таксама дабіў.

— Іване, не думай, што ты ўжо ўхапіў Бога за бараду. Тое, што ты паспеў зрабіць, — добра. Але гэта пачатак дарогі. І вялікі прывал можа толькі зашкодзіць. Надта не расслабляйся, — мякка ўшчуваў Праскураў.

— Васіль Фёдаравіч, у мяне столькі планаў! На паўсотню гадоў хопіць. Кніжку вершаў рыхтую... — размахваў рукамі Кірэйчык.

Было застолле, быў цудоўны бярозавік, якім запівалі мацнейшае зелле. Тады мяне ўразіла, што гасцінны гаспадар змушаны быў далікатна стрымліваць Кірэйчыка: маўляў, на сёння хопіць, Іване.

— Хачу выпіць чарку за тое, каб Лявон Кірэевіч перайшоў на беларускую мову. Хіба ж не сорамна? Магілёўскі хлопец, зямляк Аркадзя Куляшова, а піша апавяданні па-руску...

— Даўно яму казаў, што для рускай літаратуры хопіць аднаго Леаніда Лявонава, — падтрымаў Кірэйчыка Праскураў.

Я не пярэчыў, у глыбіні душы разумеў, што ведаю збольшага рускую літаратурную мову і не ведаю народныя, каларытныя гаворкі, а без гэтага літаратурны твор — дыстыляваная вада. І ўсё ж мне спатрэбілася шмат часу, каб зрабіць гэты пераход.

Пры сустрэчы — выпадкова сутыкнуліся ў Доме друку — Кірэйчык павіншаваў мяне з першай кніжкай, спытаў, ці чытаў я ягоны "Пялёсткавы бераг". Я вымушаны быў прызнацца, што кніжку прапусціў, але чытаў нарысы ў перыёдыцы.

— Прышлю табе кнігу. хачу ведаць тваю думку, — сказаў ён.

На жаль, ці то пошта падвяла, ці аўтар забыўся на сваё абяцанне, але "Пялёсткавага берага" я не дачакаўся. І прачытаў кніжку толькі цяпер, калі наважыўся пісаць успаміны.

●

Наступная наша сустрэча адбылася на пачатку 1981 года ў Гомелі. Я прыехаў прымаць праграму абласнога тэлебачання для паказу на рэспубліканскім экране: набліжаўся чарговы "гістарычны" з'езд КПСС, і кожная вобласць рыхтавала перадачу пра дасягненні. Звычайна выступаў першы сакратар абкама, паказваліся краявіды, рапартавалі перадавікі, выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці. Усё гэта было і ў праграме гамяльчан. Калі скончылася перадача, усе скіравалі пагляды на мяне.

— Здаецца, не горш, чым у іншых, — дыпламатычна зазначыў я, выказаў некаторыя прапановы, бо тое-сёе яшчэ можна было паправіць.

На тэлестудыі тады працаваў Іван Сяркоў, я чытаў яго выдатныя аповесці для дзяцей, з прыемнасцю пазнаёміўся з ім.

— На ўвесь Саюз пісьменнікаў толькі мы двое — Кірэевічы, — жартаўліва ўздымаў на лоб густыя чорныя бровы Сяркоў.

— Затое ёсць яшчэ Іван Кірэйчык...

— Дарэчы, ён званіў, хоча пабачыцца...

З Іванам Кірэйчыкам мы сустрэліся ў гасцініцы. Прыйшоў ён нападпітку. Ка-лі я пачаў далікатна ўшчуваць яго, Іван махнуў рукою:

— Стары, такое жыццё... Розныя жыццёвыя нелады... І ўсё ж я працую. Вось неўзабаве скончу літаратурны запіс кнігі партызанскага камандзіра Лазабеева. Гэта на першы погляд здаецца, што лёгка пісаць за некага. А на самай справе — рэч складаная.

— Ну а вершы пішаш?

— Вершаў не пішу. Не той настрой. Нарысы друкую. Хачу кніжку выдаць.

— А чаму ў Саюз пісьменнікаў не ўступаеш?

— Ды ўсё няма калі сабраць паперы...

— Ты ж некалі казаў, што ў цябе планаў на паўсотню гадоў... Помніш, у хаце Васіля Праскурава? У Ганцавічах?

— Помню. Васілю Фёдаравічу я заўсёды буду ўдзячны...

— Іване, я веру, што ў цябе багата планаў. І талент у цябе адметны. Шматгранны. І слова цябе слухаецца і ў вершы, і ў прозе. І ў публіцыстыцы... Але яшчэ ніхто не перамог гарэлку. А яна зваліла гэткіх асілкаў... Гэткіх волатаў...

Я назваў некалькі прозвішчаў.

— Гэта я разумею, — сумна ўздыхнуў Іван. — Бывае, месяцамі ў рот не бяру. А як сарвуся, то і пакацілася ўсё пад адхон...

Апошняя наша сустрэча адбылася, здаецца, на з'ездзе пісьменнікаў. Іван быў у акружэнні маладых незнаёмых літаратараў. Перакінуліся словам і развіталіся.

Неяк траліўся мне на вочы знаёмы гомельскі літаратар, спытаўся ў яго:

— Як там Іван Кірэйчык маецца?

— Змагаецца з радыенуклідамі.

— Якім чынам?

— Ну, сродак вядомы. Народны. Дзве кроплі вады на шклянку гарэлкі...

— Ён і пяром змагаецца. Я чытаў ягоныя рэпартажы, артыкулы на тэму Чарнобыля, — запярэчыў я.

І сапраўды, будучы ўласным карэспандэнтам "Чырвонай змены" па Гомельскай вобласці, Іван Кірэйчык шмат ездзіў па забруджаных раёнах, пісаў адтуль пра жыццё пасля Чарнобыля. Пісаў усхвалявана, з болем і горыччу, з вялікай спагадаю да людзей, якія тралілі ў пастку да нябачнага, бязлітаснага ворага — радыяцыі.

●

...Гляджу на партрэт прыгожага кучаравага хлопца... "Беларуская літаратура страціла здольнага, удумлівага пісьменніка, таленту якога не наканавана было раскрыцца да канца..." — напісана ў некралогу.

Гэта праўда.

Калі пісаў гэтыя нататкі, у галаве, нібы цвікі, сядзелі радкі з верша Івана Кірэйчыка: "Мяне ж з ёй разам загубіў часінай страшнаю Чарнобыль..." Яны асабліва моцна ўразілі мяне, бо я родам з адселенай вёскі. Чарнобыль выгнаў маіх землякоў з абжытых хацін, і яны, быццам птушкі, разляцеліся па свеце. Спаленая ў вайну, мая вёска ўзнялася з папялішчаў, адбудавалася, памаладзела. А ці адродзіцца яна пасля Чарнобыля?

"Багацце душы — людзям", — так называлася першая кніжка нарысаў Івана Кірэйчыка, якая ўбачыла свет роўна трыццаць гадоў таму. І гэтыя словы гучаць цяпер, як запавет нашчадкам.

**Леанід ЛЕВАНОВІЧ**

АНОНС

# Не старэюць душой ветэраны

Слушныя словы ў дачыненні да [illegible]х удзельнікаў маста[illegible]амадзейнасці, якія ў гэтыя веснавыя дні збіраюцца ў Мінск на III Рэспубліканскі фестываль народнай творчасці ветэранскіх калектываў! Прамінулі адборачныя туры, поўныя хвалявання і надзеі, якія прайшлі ў кожнай вобласці. Не ўсе, вядома ж, атрымалі пуцёўку на заключны тур, але стараліся самааддана.

А тое, што ў ветэранскіх калектывах пануе сапраўдны дух мастацтва, — відавочна. Прыкладам таму — леташні фестываль. Цудоўныя калектывы з'ехаліся тады ў мінскі Палац культуры ветэранаў з усіх куткоў рэспублікі. Тры дні харавыя, вакальныя, народна-інструментальныя, фальклорныя калектывы стварылі сапраўднае свята. Гэта і дало падставу членам арганізацыйнага камітэта і журы задумацца пра перспектывы ветэранскага самадзейнага руху, пра магчымасці зрабіць такі фэст традыцыйным. Ідэю падтрымалі ў прэзідыуме Савета Федэрацыі прафсаюзаў, Міністэрстве культуры рэспублікі, Рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў, Міністэрстве сацыяльнай абароны. І вось — новы фестываль.

Якім жа ён будзе сёлета? Расказвае дырэктар Палаца культуры ветэранаў Яўген Сяргеевіч Барсукоў, які горача падтрымаў ідэю правядзення фестывалю і прыняў на сябе асноўную працу па яго арганізацыі:

— Мы ствараем усе магчымыя на сёння ўмовы для падтрымкі ветэранскай самадзейнасці, бо добра разумеем патрэбу старога чалавека нават у простых чалавечых зносінах. А калі яны грунтуюцца на агульных інтарэсах, на любові да мастацтва, імкненні прыгожа і змястоўна адпачываць, гэта ж проста падоўжвае чалавечы век! Пачнецца фестываль 2-га мая з шэсця ўдзельнікаў у Мінску па праспекце Скарыны і ўскладання кветак да помніка Перамогі. Потым — конкурсныя праграмы ў Палацы ветэранаў. Адметным у сёлетнім фэсце будзе тое, што дэлегацыі ад кожнай вобласці выступяць з канцэртамі ў Рэспубліканскім шпіталі ветэранаў вайны ў Бараўлянах, у Акадэміі міліцыі, дамах састарэлых. Прадугледжваецца і культурная праграма для ўдзельнікаў: наведванне тэатраў, музеяў, экскурсіі.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ**

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4463
Нумар падпісаны ў друк 2.5.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2489/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12